[ІН]СТЫТУТ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

# БЮЛЕТЭНЬ

## № 1

1926—1927

ВЫДАНЬНЕ ІНСТ. БЕЛ. КУЛЬТУРЫ. МЕНСК 1927.

ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ



# БЮЛЕТЭНЬ

## № 1

1926—1927




МЕНСК 1927

## Асабовы склад Інстытуту Беларускае Культуры на 1 лютага 1927.

*Правадзейныя члены.*

1. Ігнатоўскі Ў.
2. Жылуновіч З. (Цішка Гартны)
3. Баліцкі А.
4. Прышчэпаў З.
5. Русецкі Э.
6. Каранеўскі Я.
7. Усьпенскі А.
8. Мароз М.
9. Кудзелька М. (Чарот М.)
10. Мазур І.
11. Барсукоў М.
12. Аршанскі Б.
13. Вэйнгер М.
14. Сосіс І.
15. Гэльтман С.
16. Гэльтман Я.
17. Дамброўскі Ч.
18. Віткоўскі І.
19. Чарнушэвіч З.
20. Сянькевіч А.
21. Казюра С.
22. Некрашэвіч С.
23. Смоліч А.
24. Дыла Я.
25. Ленц А.
26. Гарэцкі Г.
27. Трамповіч П.
28. Кедраў-Зіхман О.
29. Ільлючонак П.
30. Лойка М.
31. Луцэвіч І. (Янка Купала)
32. Міцкевіч К. (Якуб Колас)
33. Лёсік Я.
34. Цьвікевіч І.
35. Грамыка М.
36. Гарэцкій М.
37. Дружчыц В.
38. Азбукін М.
39. Пятуховіч М.
40. Плаўнік С. (Зьмітрок Бядуля)
41. Мялешка М.
42. Пятровіч І.
43. Эпімах-Шыпіла Б.
44. Сяржпутоўскі А.
45. Растаргуеў П.
46. Замоцін І.
47. Блюдухо М.
48. Пічэта Ў.
49. Кіркор У.
50. Вольфсон С.
51. Гольмшток Х.
52. Рывас С.
53. Родзевіч Ч.
54. Ажгірэй А.
55. Бабарэка А.
56. Краскоўскі І.
57. Доўнар-Запольскі М.
58. Алонаў Е.
59. Ойсьлендэр П.
60. Цьвікевіч А.
61. Васількоў Я.
62. Люнгерсгаўзэн Р.
63. Бурштэйн М.
64. Паўловіч А.
65. Сушынскі Я.

66. Будзінскі С.
67. Козыраў М.
68. Цітоў І.
69. Леонаў В.
70. Ждановіч Ф.
71. Галубок У.
72. Салаўёў П.
73. Скандракоў С.
74. Стакоўскі В.
75. Бабінскі С.
76. Кон Ф.
77. Красны Ю.

*Члены-супрацоўнікі.*

1. Слонім С.
2. Вансоўскі Б.
3. Лур'е З.
4. Шукевіч-Трацьцякоў Р.
5. Шыпіла І.
6. Ракаў Я.
7. Лайкоў М.
8. Касенкаў М. (Зарэцкі)
9. Александровіч А.
10. Майзель Г.
11. Буткевіч Б.
12. Бялуга М.
13. Пржыбышэўскі С.
14. Борскі С.
15. Ульянаў А.
16. Казак А.
17. Байкоў М.
18. Даўгяла З.
19. Кісьлякоў І.
20. Красінскі М.
21. Круталевіч. А.
22. Рагавы П.
23. Парэчын Р.
24. Серада І.
25. Сербаў І.
26. Чаржынскі Ў.
27. Шчакаціхін М.
28. Фінкель У.
29. Аляксандраў А.
30. Грабоўскі І.
31. Касаткін В.
32. Сіманоўскі Я.
33. Котаў І.
34. Тупяневіч С.
35. Барычэўскі А.
36. Міровіч А.
37. Фядзюшын А.
38. Вяршук В.
39. Трахімаў А.
40. Дубоўка Ў.
41. Атраховіч К. (Крапіва)
42. Раманоўскі М. (Кузьма Чорны)
43. Чарнушэвіч Н.
44. Плашчынскі Я. (Язэп Пушча)
45. Палеес А.
46. Ябраў Г.
47. Фрыдман Г.
48. Маршак Д.
49. Бэрнштэйн Р.
50. Брохіс Р.
51. Савікоўскі Э.
52. Каз А.
53. Турок С.
54. Хржчановіч У.
55. Мельнік С.
56. Будзінская Р.
57. Кардыян-Брускоўскі А.
58. Магілеўчык З.
59. Каравайчык П.
60. Васілеўскі Д.
61. Бялькевіч І.
62. Шатэрнік
63. Мачульскі В.
64. Гольдбэрг І.
65. Ярашчук А.
66. Шыцькоўскі Ў.

*Члены-корэспондэнты.*

1. Ганчарык М.
2. Дайлідовіч А. (Алесь Дудар)
3. Рымашэўскі З.
4. Сьпіцэвіч В.

5. Шыманская А.
6. Мястоўская Я.
7. Косьцюк Я.
8. Шастакоў
9. Купцэвіч
10. Касьпяровіч М.
11. Лычкоўскі Ю.
12. Хэрсонскі Х. (Масква)
13. Равенскі М. (Масква)
14. Ігнатоўскі М. (Ленінград)
15. Лебедзева М. (Віцебск)
16. Пон Б. (Віцебск)
17. Кіпрыянец К. (Орша)
18. Журык С. (Горкі)
19. Каркаў І. (Горкі)
20. Дзямідовіч А.
21. Троська Я. (Магілеў)
22. Ходзкі П. (Клімавічы)
23. Чыжэўскі С. (Віцебск)
24. Кравец Ц. (Слуцак)
25. Такначоў С. (Барысаў)
26. Канчар А. (Ленінград)
27. Шыпэрка Э. (Менск)
28. Гуткоўскі М. (Менск)
29. Кобец Г. (Менск)
30. Брыт М. (Масква)
31. Сабалеўская Е.
32. Добржанскі Я.
33. Булат В.
34. Гораўскі А.
35. Стэткевіч М.
36. Моніс А.
37. Цемналонская К.
38. Аляшкевіч Ф.
39. Нямцоў А.
40. Размысловіч
41. Більдзюкевіч Л.
42. Шашалевіч А.
43. Пятроў
44. Каралін
45. Мяцельскі Я.
46. Глінскі
47. Ламака М.
48. Каваленак Я.
49. Антонаў
50. Пратасеня
51. Кучынскі П.
52. Трус П.
53. Бузук Ю.
54. Каржанеўскі
55. Лаўроўскі
56. Імшэньнік
57. Гарбацэвіч
58. Пакроўскі
59. Самцэвіч В.
60. Жарын
61. Мацьвяёнак
62. Шульман Б.
63. Кіржніц А.
64. Штыф Н.

---

І. Згодна праверaных сьпіскаў, на 15 ліпня 1927 году склад Інстытуту Беларускае Культуры зрэдукаваўся да 176 асоб.

| | |
|---|---|
| Правадзейных членаў . . . . | 76 асоб |
| Членаў-супрацоўнікаў . . . . | 65 „ |
| Членаў-корэспондэнтаў . . . | 35 „ |

Паводле партыйнасьці агульная лічба членаў падзяляецца:

| | |
|---|---|
| партыйных . . . . . . . . | 54 |
| беспартыйных . . . . . . . | 122 |

Паводле нацыянальнасьці:

| | |
|---|---|
| беларусаў | 110 |
| яўрэяў | 31 |
| палякаў | 20 |
| расійцаў | 9 |
| украінцаў | 2 |
| татар | 1 |
| латышоў | 1 |
| немцаў | 1 |

II. Нацыянальны і партыйны склад правадзейных членаў наступны:

| | |
|---|---|
| партыйных | 31 |
| беспартыйных | 45 |

| | парт. | бесп. |
|---|---|---|
| беларусаў | 15 | 31 |
| яўрэяў | 3 | 6 |
| палякаў | 9 | — |
| расійцаў | 2 | 6 |
| латышоў | 1 | — |
| украінцаў | 1 | 1 |
| немцаў | — | 1 |

III. Нацыянальны і партыйны склад членаў-супрацоўнікаў наступны:

| | |
|---|---|
| партыйных | 17 |
| беспартыйных | 48 |

| | парт. | бесп. |
|---|---|---|
| беларусаў | 8 | 29 |
| яўрэяў | 4 | 13 |
| палякаў | 5 | 4 |
| расійцаў | — | 2 |

IV. На запатрабаваньне Прэзыдыуму Інбелкульту справаздачы прадставілі ня ўсе яго члены. У параўнаньні з мінулым годам лік справаздач значна ўзрос, што можа сьведчыць аб большай зацікаўленасьці членаў ІБК фактам уваходжаньня ў склад ІБК і аб большай рабоце імі праробленай. Аднак прапорцыянальна да агульнага ліку членаў—лік справаздач далёка невыстарчаючы, асабліва ў стасунку да партыйных таварышоў.

З агульнага ліку правадзейных членаў справаздачы атрыманы ад 45 членаў. Пры гэтым партыйныя (31 чл.) члены падалі 15 справаздач, ці 48% і беспартыйныя (45 чл.) падалі 30 справаздач, ці 66%.

З агульнага ліку членаў-супрацоўнікаў падалі справаздачы ўсяго 34, пры гэтым партыйныя (17 чл.) 4 справаздачы, ці 23,5% і беспартыйныя (48 чл.) 30 справаздач, ці 62%.

Такім чынам з ліку прав. членаў і членаў-супрацоўнікаў падаўшых справаздачы:

| | |
|---|---|
| сялян | 36 |
| служачых | 16 |
| рабочых | 2 |
| інтэлігентаў | 2 |
| рамесьнікаў | 3 |
| няма вестак | 37 |

З ліку падаўшых справаздачы правадзейных членаў і членаў-супрацоўнікаў атрымалі асьвету:

| | | |
|---|---|---|
| Вышэйшую: | Унівэрсытэцкую | 41 |
| | Політэхнічную | 2 |
| | Спец.-агроном. | 13 |
| | Спэц.-пэдагог. | 6 |
| | Спэц.-вэтэр. | 2 |
| | Спэцыяльную | 5 |
| Сярэднюю | | 14 |
| Самаасьвета | | 5 |
| Не далі вестак | | 5 |

Трэба адзначыць, як характэрную зьяву, што вельмі значны процант членаў Інбелкульту, як правадзейных, так і супрацоўнікаў,—праходзіў вышэйшую і сярэднюю асьвету без дапамогі бацькоў, выбіваючыся звычайна з беднай сялянска-работніцкай сям'і.

Пераважаючая большасьць падаўшых справаздачы членаў правадзейных і супрацоўнікаў маюць друкаваныя працы. Правадзейныя члены—648 друк. прац і члены-супрацоўнікі—183. Але тут ёсьць вялікая разнастайнасьць: у той час, як сустракаюцца члены ІБК, лік друкаваных прац якіх лічыцца дзесяткамі,—ёсьць члены, якія маюць 1-2 друкаваных працы. У сярэднім можна лічыць, што на кожнага правадзейнага члена (з ліку падаўшых) прыходзіцца каля 15 друкаваных прац і на кожнага члена-супрацоўніка (з падаўшых) каля 5 друк. прац. Нямаючых друкаваных прац:

| | |
|---|---|
| правадзейных членаў (з падаўшых справаздачы) | 3 |
| членаў-супрацоўнікаў „ „ „ | 4 |

Гатовых да друку прац ёсьць:

| | |
|---|---|
| у правадзейных членаў (падаўшых справаздачы) | 122 |
| у членаў-супрацоўнікаў „ „ „ | 38 |

---

## Навуковая рада ІБК.

1. Ігнатоўскі Ў. М. — Прэзыдыум ІБК.
2. Каранеўскі Я. П. — " "
3. Бялуга М. І. — " "
4. Смоліч А. А. — " "
5. Цьвікевіч А. І. — " "
6. Жылуновіч З. Х. — " "
7. Гэльтман С. М.—Польскі Аддзел (Сэкцыя Мовы і Літаратуры).
8. Віткоўскі І. А. " " (Сэкцыя Гісторыі).
9. Аршанскі Б. М.—Яўрэйскі Аддзел.
10. Вэйнгер М.— " " (Сэкцыя Мовы і Літаратуры).
11. Сосіс І. Д.— " " (Сэкцыя Гісторыі).
12. Дыла Я. Л.— Мастацкая Сэкцыя ІБК.
13. Барсукоў М. І.—Мэдычная Сэкцыя.
14. Прышчэпаў З.—Сельска-Гаспадарчая Сэкцыя.
15. Усьпенскі А. К.—Асоцыяцыя Навуковай Організацыі Працы.
16. Некрашэвіч С. М.—Аддзел Мовы і Літаратуры ІБК.
17. Пічэта Ў. І.—Соцыяльна-Гістарычная Сэкцыя.
18. Прадстаўнік „Маладняка“.
19. Лёсік Я. Ю.—Штатны член ІБК, Галоўная Тэрмінолёгічная Камісія.
20. Азбукін М. В. — " " " Географ. Кам. Прыродазнаўчая Сэкцыя.
21. Блюдухо М. Т. — " " " КПВСБ.
22. Трамповіч П. В.— " " " Мэдычная Сэкцыя.
23. Ленц А. К. — " " " Антрополёгічная Камісія.

*Пэрсанальна запрошаны:*

24. Баліцкі А. В. — Наркамасьветы.
25. Купала Янка — Народны поэта.
26. Колас Якуб — " "
27. Гарэцкі М. І. — Гісторык літаратуры.
28. Пятровіч І. — Экономіст.
29. Мароз М. І. — Камісія па ахове помнікаў.
30. Казак А. З. — ЦБ Краязнаўства.
31. Кісьлякоў І. А. — С.-Гасп. Экономія.

*Намесьнікі членаў Навуковай Рады ІБК:*

Прымалі ўдзел на паседжаньнях Навуковай Рады з правам *рашучага* голасу пры нябытнасьці старшынь сэкцый, а ў прысутнасьці іх—з правам дарадчага голасу.

32. Родзевіч Ч. І. — Мастацкая Сэкцыя.
33. Цьвікевіч І. І. — Мэдычная Сэкцыя.
34. Грабоўскі Я. — Сельска-Гаспадарчая Сэкцыя.
35. Дружчыц В. Д.— Соцыяльна-Гістарычная Сэкцыя.
36. Васілейскі С. — Навуковая Організацыя Працы.

Навуковая Рада ІБК зьбіралася толькі адзін раз у 1926/27 годзе, на гэтым паседжаньні выслуханы былі тры даклады:

1. Даклад У. М. Ігнатоўскага аб новым складзе Навуковай Рады.

2. Даклад А. Цьвікевіча аб падгатоўцы Акадэмічнае Канфэрэнцыі і програме яе працы.

3. Даклад А. Смоліча аб кандыдатах у члены ІБК ад Сельска-Гаспадарчай Сэкцыі.

Бягучыя справы.

---

## Прэзыдыум Інстытуту Беларускае Культуры 1926/27. г.

*Асабовы склад.*

1. У. М. Ігнатоўскі, Старшыня.
2. Я. П. Каранеўскі, Нам. Старшыні.
3. А. А. Смоліч, Нам. Старшыні.
4. М. І. Бялуга, Чл. Прэз., Загадчык гаспадарчай часткі.
5. А. І. Цьвікевіч, Навуковы Сакратар.
6. С. М. Гэльтман, Загадчык Польсэктару
7. Б. М. Аршанскі, Загадчык Яўсэктару.
8. З. Х. Жылуновіч, Чл. Прэзыдыуму.
9. Прадстаўнік ад Маладняка.

У Прэзыдыуме заслухаліся даклады і вырашаліся навукова-арганізацыйныя, адміністрацыйна-гаспадарчыя і бягучыя справы.

За 1926/27 год адбылося 38 паседжаньняў Прэзыдыуму Інстытуту Беларускае Культуры, на якіх было прагледжана 227 пытаньняў:

| | |
|---|---|
| Навукова-арганізацыйных . . . . . . | 111 |
| Адміністрацыйна-гаспадарчых . . . . . | 47 |
| Заслухана дакладаў . . . . . . . . . | 13 |
| Бягучых пытаньняў унесеных Сакратарыятам . . . . . . . . . . . | 56 |

На паседжаньнях разглядаліся наступныя важнейшыя пытананьні:

7. X. 26. Аб штатах ІБК. Аб каштарысе Акадэмічнае Канфэрэнцыі. Аб асабовым складзе сэкцый і камісій.

21. X. 26. Аб увекавечаньні памяці М. Багдановіча. Аб юбілеі Якуба Коласа. Аб організацыі латыскага аддзелу пры ІБК. Аб набыцьці друкарні. Аб т. Ольсьлендару. Аб пляне працы ІБК. Аб працы Камісіі Мовы і Літаратуры.

25. X. 26. Аб паседжаньнях Прэзыдыуму. Аб парадку дакладаў на Прэзыдыуме ІБК. Проект пастановы СНК БССР, аб Літоўскай Мэтрыцы і іншых старых архіўных фондах, якія знаходзяцца ў межах СССР. Проект пастановы СНК БССР аб беларускіх старадаўных архівах, якія знаходзяцца за межамі СССР (у Польшчы). Аб статуце раёных краязнаўчых гурткоў. Аб умове з НКА на памяшканьне для прыродазнаўчага музэю ІБК. Аб рэдкалегіі для выданьня прац Акадэмічнае Конфэрэнцыі.

2. XII. 26. Аб зьняцьці акуратнай копіі з опэры „Сялянка“ Дунін-Марцінкевіча, якая знаходзіцца ў Акадэміі Навук СССР. Аб надрукаваньні зборніка твораў пісьменьніка І. Гольдбэрга (Якнегоз) з прычыны яго 50-цілетняга юбілею. Аб яўрэйскім шрыфце для друкарні ІБК.

3. XII. 26. Справаздача Горацкага Навуковага Таварыства. Аб навуковых камандыроўках. Аб Гомельскім музэі. Пытаньні Вайскова-Тэрмінолёгічнай камісіі.

16. XII. 26. Аб навуковым таварыстве лекараў-окулістаў. Проект палажэньня аб навуковых працаўнікох вышэйшых навучальных установ. Аб гістарычным слоўніку беларускай мовы. Аб зьбіраньні слоўнікавага матар'ялу жывой беларускай мовы ў Зах. Беларусі. Даклад старшыні С. М. Некрашэвіча аб слоўнікавых матар'ялах у Варшаўскім Навуковым Т-ве (9 т. зборнікаў Фэдароўскага) і аб стане працы зьбіраньня слоўнікавага матар'ялу ў Зах. Беларусі).

23. XII. 26. Пастанова камісіі аб дапамозе Горацкаму Навук. Т-ву. Організацыя Камісіі Гісторыі Мастацтва. Рэорганізацыя камісіі дзеля выданьня зборніка Акадэмічнае Конфэрэнцыі. Аб асьпірантах. Аб зборніку Рэвруху. Аб перадачы сродкаў Акадэмічнае Конфэрэнцыі організацыйнай камісіі.

30. XII. 26. Аб загадчыку Латаддзелу т. Ансвэсулу. Заключэньне з прычыны дакладу т. Гарэцкага (з паездкі ў Зах. Беларусь). Аб ушанаваньні памяці М. Багдановіча. Аб укладаньні географічнага слоўніка. Аб прыняцьці ад гр. К. Езавітава аўтографу Багушэвіча. Аб прыняцьці ад проф. Скандракова пэргамінага документу.

13. I. 27. Даклад Мастацкае Сэкцыі. Аб Этнографічнай камісіі. Даклад Рэдакцыйна-Выдавецкага Аддзелу. Аб выданьні вайсковага слоўніка.

24. I. 27. Аб зацьверджаньні ў годнасьці правадзейнага члена ІБК т. Ждановіча Флёрыяна.

27. I. 27. Палажэньне аб хэмічнай лябораторыі ІБК. Палажэньне аб Фолькёрна-Дыялектолёгічнай Камісіі. Зацьверджаньне членаў ІБК. Аб надрукаваньні працы Г. Гарэцкага „Гаспадарка Заходняе Беларусі“. Пастанова Сакратарыяту аб зьмене

складу Інбелкульту. Аб набыцьці бібліотэкі Яневіча. Аб Навуковай Радзе.

3. II. 27. Даклад Выдавецкага Аддзелу аб пляне выданьняў на 1926-27 г. (дакладчык А. Смоліч). Аб залічэньні ў члены ІБК проф. Ленца. Аб кворуме калегіяльных органаў ІБК. Аб адмове членаў ІБК ад сваёй годнасьці. Заява т. Азбукіна аб выпраўленьні ў БСЭ даных аб г. Баранавічах. Аб спэцыяльных сродках на вывучэньне Гомельшчыны.

24. II. 27. Аб узяцьці БДМузэяў пад кіраўніцтва ІБК. Аб Этнографічнай сэкцыі ІБК. Аб сакрэтным фондзе бібліотэкі ІБК. Перапіска з „Музэем Народазнаўства“ ў Ленінградзе. Аб астатках фонду для вывучэньня Гомельшчыны. Даклад проф. Ленца „Новая мэтодыка вывучэньня ўмоўных рэфлексаў чалавека. Даклад проф. Васілейскага аб Псыхотэхнічнай ляборатарыі. Аб складзе Соцыяльна-Гістарычнай Сэкцыі. Аб пасылцы „Чыстых лістоў“ рэдакцыям загранічных навуковых устаноў (пропозыцыя Акадэміі Навук СССР). Аб праверцы працы членаў ІБК за 1926 год.

10. III. 27. Ліквідацыя Камісіі для організацыі Акадэмічнае Конфэрэнцыі. Зацьверджаньне ўмовы ІБК з НКА аб музэях. Пастанова аб парадку перадачы экспонатаў ІБК БДМузэю. Аб сьвяткаваньні дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі. Аб камандыроўцы прадстаўнікоў ІБК у Горкі. Аб складзе Прэзыдыуму Гістарычнае Камісіі. Зацьверджаньне Камісіі вывучэньня Заходняе Беларусі. Аб Камісіі для падрыхтоўкі Матар'ялаў „БСЭ“. Аб выданьні прац II-га Краязнаўчага Зьезду. Аб анкетах Камісіі Аховы Помнікаў.

17. III. 27. Аб друкарні ІБК а) палажэньне, б) правілы ўнутранага распарадку, в) колектумова і расцэнкі. Выданьні Вайсковай Камісіі. Скарочаньне каштарысу ІБК. Даклад аб палеолітах.

24. III. 27. Рэдакцыя заключнай рэзолюцыі Акадэмічнае Конфэрэнцыі. Навуковае кіраўніцтва працай музэю. Аб катэдры краязнаўства пры вышэйшых школах БССР.

31. III. 27. Даклад КПВСБ аб яго сучасным становішчы і пэрспэктывах. Зацьверджаньне пастановы Сакратарыяту аб Музэі Прыроды. Разгляд проекту новага статуту ІБК.

5. IV. 27. Даклад Камісіі для вывучэньня Прыродных Вытворчых сіл Беларусі. Умова паміж ІБК і Навукова-Дасьледчым Інстытутам імя Леніна аб разьмеркаваньні працы.

12. IV. 27. Аб выключэньні нядзейных членаў ІБК. Аб складаньні плянавых каштарысаў Аддзелаў, Сэкцый і Камісій ІБК на 1927-1928 акад. год.

30. IV. 27. Аб летніх адпачынках для працаўнікоў ІБК. Аб сродках на ўтрыманьне навук. супрацоўніка ў Вяліка-Летчанскім

садзе. Экспэдыцыйна-дасьледчы плян ІБК на 1926-27 г. Выданьне працы Сербава „Вічынцы-Паляне“. Аб структуры ІБК. Аб замежных камандыроўках (Скандракова ў пытаньнях с.-гаспадаркі ў Польшчу і Чэха-Славакію; Б. Аршанскага ў справах Яўрэйскага Аддзелу—у Нямеччыну і Амэрыку; Касьпяровіча — у пытаньнях краязнаўства—у Фінляндыю, Эстонію, Латвію і Літву.

7. V. 27. Інформацыя А. Смоліча аб пляне организацыйнай структуры ІБК, згодна проекту новага статуту.

12. V. 27. Проект Статуту ЦБКраязнаўства. Аб адзначаньні дзесяцігодзьдзя са дня сьмерці М. Багдановіча. Аб прыкамандыраваньні Азбукіна да Географічнага Факультэту Ленінградзкага Унівэрсытэту. Аб прыезьдзе проф. Эбэрта для ўдзелу ў археолёгічных раскопках. Аб гадовых справаздачах членаў ІБК.

25. V. 27. Аб набыцьці портрэту М. Багдановіча. Справаздача аб рабоце і становішчы Бібліотэкі ІБК.

Аб выстаўцы хатніх рамёслаў. Аб памяшканьні для друкарні ІБК. Аб выданьні першага тому „Беларускі Архіў“. Аб сьвяткаваньні стагодзьдзя са дня нараджэньня Л. М. Талстога.

2. VI. 27. Пастанова Фольклёрна-Дыялектолёгічнай Камісіі ад 17. V. 1927. Аб штатнай працы ботаніка пры Вяліка-Летчанскім садзе. Аб набыцьці фотографічных апаратаў.

9. VI. 27. Аб рэорганізацыі Тэрмінолёгічнае Камісіі ў Інстытут Навуковае Мовы. Пытаньне аб становішчы НОП у новай структуры.

16. VI. 27. Аб камандыроўцы П. Трамповіча на зьезд хірургаў у Кіеве. Аб контрольнай лічбе для ІБК на 1927-28 г. Ліст Усесаюзнай Комуністычнай Акадэміі: Аб выкарыстаньні падарожы проф. Прылежаева ў Бэрлін. Даклад Б. Аршанскага аб выніках камандыроўкі ў Кіеў і аб працы Яўрэйскага Сэктару.

17. VI. 27. Аб утварэньні Камісіі для апрацаваньня пляну і структуры ІБК.

7. VII. 27. Інформацыя Ў. М. Ігнатоўскага аб парадку абгавораньня новай структуры ІБК у СНК. Аб летнім адпачынку членаў Прэзыдыуму і навук. працаўнікоў ІБК. Аб заключэньні ІБК на проект пляну работы Акадэміі СССР. Протэст супроць прызначаньня акад. Е. Ф. Карскага старшынёй Камісіі для складаньня зборніка „Навука і навуковыя працаўнікі СССР“. Даклад Смоліча аб проекце абсьледваньня Палесься. Аб выданьні анкеты Камісіі Аховы Помнікаў.

16. VII. 27. Даклад. П. Трамповіча аб выніках экспэдыцыі для дасьледваньня курортных мясцовасьцяй БССР. Даклад У. М. Ігнатоўскага аб падарожы ў Маскву для сувязі з Комуністычнай Акадэміяй. Аб зачыненьні крэдытаў для ІБК на 3-ці

квартал. Выданьне польска-беларускага і беларуска-польскага слоўнікаў. Аб сродках на ўтрыманьне Вяліка-Летчанскага саду Асыгнаваньне на організацыю лябораторыі для перапрацоўкі фруктаў у Вяліка-Летчанскім садзе.

10. IX. 27. Аб парадку рэорганізацыі ІБК. Аб днёх паседжаньняў Прэзыдыуму і Сакратарыяту ІБК. Аб асыгнаваньні сродкаў на навуковыя камандыроўкі за межы БССР. Аб пэрсональнай пэнсіі бацьку М. Багдановіча і т. Грыневічу.

24. IX. 27. Аб запрошаньні ІБК на сьвяткаваньне столетняга юбілею Максімовіча, які ладзіць філёлёгічны Аддзел Украінскай Акадэміі Навук. Аб працы Вяліка-Летчанскага саду. Прызначаньне навукова-тэхнічных працаўнікоў.

## Сакратарыят складаўся з пяці асоб:

Каранеўскі, Нам. Старшыні } папераменна
Смоліч, Нам. Старшыні }
Бялуга, Загадчык гаспадарчай часьці.
Цьвікевіч, Навуковы Сакратар.
Казак, Прадстаўнік Мясцкому.
Чарэпнін, Загадчык агульнай часьці.

За год адбылося 39 паседжаньняў Сакратарыяту, на якіх разгледжана 718 пытаньняў.

---

## Гістарычна-Архэолёгічная Камісія ІБК.

*Склад камісіі.* У асабовы склад Гіст.-Архэол. Камісіі на 1-е кастрычніка 1926 г. уваходзілі:

I. Штатныя супрацоўнікі:

1. Даўгяла Зьмітра Іванавіч—Навуковы Сакратар Камісіі.
2. Дубінскі Сяргей Антонавіч—асьпірант.

II. Абраныя Камісіяй няштатныя супрацоўнікі.

а) у галіне гістарычнай:

1. Пічэта Ўладзімер Іванавіч,
2. Дружчыц Васіль Данілавіч,
3. Мялешка Міхайла Вінцэтавіч,
4. Паноў Аляксандар Іванавіч,
5. Сцапуржынскі Аляксандар Аляксандравіч,
6. Эпімах-Шыпіла Браніслаў Ігнатавіч.

б) у галіне архэолёгіі:

1. Сербаў Ісаакі Абрамавіч,
2. Харламповіч Павал Васілевіч,

3. Аніхоўскі Аляксандар Лявонцевіч,
4. Ляўданскі Аляксандар Міхайлавіч,
5. Маразовіч Пракоп Кірылавіч,
6. Палікарповіч Канстантын Міхайлавіч,

в) студэнты:

1. Каваленя Аляксандар Зьмітравіч,
2. Улашчык Мікалай Мікалаевіч,
3. Шутаў Сяргей Сяргеевіч.

Гэты сьпіс сяброў быў зацьверджаны пастановай Прэзыдыуму Інбелкульту 30 лістапада 1926 г. (прот. № 34, ст. 1) і заставаўся ўвесь год бяз зьмен.

З пачатку опэрацыйнага году кіраўніцтва Камісіяй ляжала на Навуковым Сакратару Камісіі Даўгяле. Пастановой Прэзыдыуму ІБК ад 10 сакавіка 1927 г. зацьверджаны: Старшыня проф. У. І. Пічэта, Намесьнік Старшыні—В. Д. Дружчыц і Сакратар Зьм. Ів. Даўгяла.

*Паседжаньні*. У працягу справаздачнага пэрыоду адбылося 27 паседжаньняў Камісіі згодна каляндарнаму пляну, які складаўся на кожны сэмэстр акад. году ўперад, у наступным парадку:

у кастрычніку 2 (13 і 27)
лістападзе 2 (3 і 22)
сьнежні 3 (6, 13 і 21)
студзені 4 (3, 10, 15 і 26)
лютым 1 (7)
сакавіку 5 (2, 10, 14, 21 і 28)
красавіку 3 (4, 11 і 18)
маі 5 (1, 16, 20, 23, 30)
і чэрвені 2 (6 і 12).

На гэтых паседжаньнях заслухоўваліся навуковыя даклады і інформацыі, а таксама абмяркоўваліся розныя справы ў сувязі: а) з выкананьнем пляну працы, б) выдаткамі з опэрацыйных сродкаў за выкананыя працы, в) выданьнем у друку навуковых прац.

Паседжаньні праходзілі ў прысутнасьці ўсіх сяброў Камісіі акуратна і пры іх самым актыўным удзеле ў працы.

*Навуковыя даклады*. Галоўная ўвага паседжаньняў была зьвернута на навуковыя даклады і інформацыі сяброў Камісіі. Усяго такіх дакладаў было заслухана 28, на наступныя тэмы:

*Даўгяла З. І.*: 1) Рукапісы і старадрукі, падараваныя Інбелкульту В. Ю. Ластоўскім.

2) Літографаваныя працы невядомага вайсковага гісторыка аб гісторыі Эўропейскіх войн XVIII стаг. (прысланыя ў бібліотэку ІБК Аршанскім Акругов. Бюро Краязнаўства).—(28. III).

3) Уражаньні агляду Койданаўскага замку (11. IV).

4) Вадзяныя папяровыя знакі ў Актав. кнігах Літоўскае Мэтрыкі (18. IV).

5) Датоўка „Прамовы Мялешкі“ і яе гістарычнае значэньне“ (9. V).

6) Документы па гісторыі Беларусі XVII—XIX стал., набытыя ад т. Сэрафімовіча (20.V).

7) Справаздача аб навуковай камандыроўцы ў Магіліеўск. Акруг. Архіў (30. V).

*Дубінскі С. А.*: 1) Справаздача аб навуковай працы ў якасьці асьпіранта за 1-ю палову ак. году (7. II).

2) Вынікі раскопак, зробленых на Банцараўскім гарадзішчы ўлетку 1926 г. (21. III).

3) Справаздача аб асьпіранцкіх занятках у другой палове, 1926-27 ак. г. (6. VI).

*Палікарповіч К. М.*: 1) Аб археолёгічных скарбах Кіеўскіх музэяў (справаздача з камандыроўкі) (3. XI).

2) Нэолітычная стаянка каля балота Печанеж, Касьцюк. раёну (3. I).

3) Досьледы гарадзішч на Мсьціслаўшчыне: Дзевіна Гара (Мсьціслаў), Міцькаўская, Рачышча, Антонава, Мокрае (10. III).

4) Археолёгічныя досьледы на ўроч. Грэнск, пры р. Сожы, у 10 кіл. ад Чачэрску (14. III).

5) Падкумскі чэрап чалавека (11. IV).

6) Досьледы нэолітычных стаянак (улетку 1926 г.) на р. Сожы (16. V).

7) Спробныя досьледы каля Бярдыжа даюць усе азнакі палеолітычнае стаянкі (2. V).

*Сербаў І. А.*: 1) Раскопкі каля г. Себежа ўлетку 1926 г. (22. XI).

2) Падагульненьне знаходак касьцей маманта на тэрыторыі Беларусі (3. I).

3) Раскопкі поля пахавальных урн каля Н.-Быхава ўлетку 1926 г. (26. I).

4) Досьледы Ўхлясьціцкага гарадзішча (7. II).

*Харлампові ч П. В.*: 1) Віцебскі скарб Праскіх грошаў (6. XII).

2) Стара-Дзедзінскі грашовы скарб (10. I).

*Каваленя А. Зьм.*: 1) Грашовы скарб на Няміскай вуліцы, знойдзены 12. X. 1926 г. (Інформацыя 13.X).

2) Лабанскае гарадзішча каля Заслаў'я (10. III).

*Шутаў С. С.*: 1) Археолёгічныя знаходкі каля Сяльца Халапеева ў 6 кіл. ад Н.-Быхава. (10. I).

2) Агляд гарадзішча і селішча каля в. Праскурні, у 9 кіл. ад ст. Жлобін, у верасьні 1926 г. (23. V).

*Юшчанка І. Х.:* 1) Раскопкі 1925 і 1926 г. г. у Гомельшчыне (15. І).

*Іншыя разгледжаныя пытаньні.* Апрача абмеркаваньня заслуханых дакладаў на паседжаньнях Камісіі было разгледжана:

а) пытаньне аб складаньні археолёгічнае карты і выяўленьні археолёгічных каштоўнасьцяй на тэрыторыі БССР у шэрагу паседжаньняў (27.X, 22.XI, 6.XII, 13.XII, 21.VII, 28.III, 6.VI).

б) апрацаваны плян выпаўненьня археолёгічных раскопак першае палеолітычнае стаянкі на Беларусі, якая знойдзена Палікарповічам каля Бярдыжа (2.III; 10.III; 28.III; 9.V; 6.VI) і чарговых археолёгічных сэзонных раскопак (2.III; 18.IV, 16.V).

в) аб організацыі археолёгічнае выстаўкі на 14 лістапада 1926 г. (9,XI).

г) агляд і прыём перапіскі актавых матар'ялаў, якая выконвалася па загаду Камісіі (27.X; 3.XI; 26.I; 7.II; 10.III; 4.IV; 11.IV; 9.V; 30.V; 6.VI; 12.VI), паводле якіх Сакратарыятам ІБК выдаваліся грошы на аплату перапісаных матар'ялаў.

*Бягучая праца штатных членаў.* Штодзённая праца ў камісіі вялася двума штатнымі супрацоўнікамі Гіст.-Археолёгічнай Камісіі і рэальна дала ў справаздачны час наступныя вынікі.

Навуковы Сакратар Камісіі Даўгяла вёў выданьне т. I „Беларускага Архіву“, прычым на ім выключна ляжалі ўсе корэктуры, ён-жа склаў належныя паказаньні і прадмову да гэтага тому. Падрыхтаваў актавы матар'ял для надрукаваньня ў т. II-м Беларускага Архіву, каля 20 друк. аркушоў, які прадстаўлены ў Выдавецкі Аддзел ІБК у пачатку красавіка 1927 г.

Вялося вывучэньне матар'ялаў да гісторыі Беларусі — а) у Менскім Цэнтрархіве; б) у Маскоўскім гістар. Архіве (б. Літоўскай Мэтрыкі); в) у Магілеўскім аддзяленьні Цэнтрархіву; г) у рукап. аддзяленьні Кіеўскай Усеукраінскай бібліотэкі і д) у рукапісным аддзяленьні Дзяржаўнай Публічнай Бібліотэкі.

У Менскім Цэнтрархіве займаўся 1-2 разы ў тыдзень. Вывучаны Менскія цэхавыя документы XVI—XIX стаг. і шэраг інвэнтароў гор. Менску і перапісаны амаль усе адзначаныя матар'ялы да гісторыі цэхаў.

У Магілеўскім Цэнтрархіве працаваў два разы ў год 5-9 лістапада 1926 г. і 30.IV—3.V, дзе разгледжаны пропіна-

цыйныя кнігі XVII стаг. гор. Магілеву і справы аб адносінах паміж Віленскім Унівэрсытэтам і павятовымі школамі.

У архіве Літоўскае Мэтрыкі ў Маскве ў працягу з 12.VI да 1. VII прагледжаны кнігі запісаў, у якіх вызначаны дакумэнты да гісторыі Менску і праверены матар'ялы, якія ўжо перапісаны да вызначанага часу ў ліку 120 аркушаў.

У Кіеве працаваў з 23 да 30 ліпня 1927 г., прычым выяўлены шэраг рукапісных дакумэнтаў, якія маюць дачыненьне да гісторыі Беларусі.

У Адэсе працаваў 1—15 жніўня, галоўным чынам вывучаючы рукап. зборн. № 26, які мае шмат матар'ялаў, каштоўных да гісторыі Беларусі, гал. чынам XVIII стаг.

Апрача гэтага зрабіў навуковае апісаньне пэргамінных рукапісаў і зборнікаў у бібліотэцы ІБК і пачаў апісаньне рукапісаў Дзяржаўнай Бібліотэкі БССР.

Звыш вызначанага Навуковы Сакратар камісіі выпаўняў абавязак адказнага рэдактара „Гістарычна-Археолёгічнага зборніка“ № 1 і склаў для яго Varia, бібліографію і паказьнік і прымаў удзел на паседжаньнях іншых камісій ІБК і ЦБК, а таксама на конфэрэнцыях і пленумах ІБК.

Асьпірант камісіі С. А. Дубінскі ў працягу зімовага сэмэстру апрацаваў анкеты для выяўленьня помнікаў старажытнасьці на тэрыторыі БССР, якія былі сабраны ў 1924-1925 г. Навукова-Экспэртнай Камісіяй Наркамасьветы і Інбелкультам і праступ'яваў друкаваныя крыніцы аб гэтым пытаньні. У выніку гэтае апрацоўкі складзена картотэка з 1.200 картак.

На падставе картотэкі зложана археолёгічная карта Магілеўскае акругі, якая ўжо выкрэсьлена ў машт. 6 кілём. у цалі.

Затым т. Дубінскі працаваў над укладаньнем бібліографіі да беларускай археолёгіі, дзеля чаго меў камандыроўку на 1 месяц у Ленінградзкія кнігасховы, дзе і працаваў пад кіраўніцтвам археолёга проф. А. А. Сьпіцына.

Вызначаная бібліографія складаецца больш, чым з $2^1/_2$ тыс. картак і здадзена для выданьня ў друку Бібліографічнай Камісіі ІБК.

У той-жа зімовы сэмэстр т. Дубінскі апрацоўваў археолёгічны інвэнтар, знойдзены ім пры раскопках Банцараўскага гарадзішча каля Менску ўлетку 1926 г. і зрабіў даклад аб раскопках у Камісіі (21.III) і ў Соц.-Гістар. Сэкцыі ІБК.

Улетку 1927 году праводзілася Дубінскім практычная археолёгічная праца, на працягу раскопак Банцараўскага гарадзішча. Дасьледвана каля 60 кв. мэтр. гарадзішча, прычым знойдзены дзьве каменныя пляцоўкі і каля аднае з іх у верхнім слаі значная колькасьць ахвярных гаршкоў (звыш 30). У гарш-

кох і каля іх шмат спаленых зярнят рознае збажыны. Але ўісподнім культурным слаі, дзе знойдзена іншая кераміка, зярнят не заўважана. Пад каменьнямі пляцоўкі знойдзены бранзалет прускага тыпу і таксама зярняты і фрагмэнты керамікі. Асабліва каштоўнай у архэолёгічным сэнсе зьяўляецца знаходка ў цэнтральным ракопе купкі перапаленых афарбаваных на чырвоны колер чалавечых касьцей і сярод іх 28 крамнёвых прылад.

Вынайдзеныя рэчы маюць быць вывучаны ў зімовы сэзон 1927-8 ак. г.

У працягу ўсяго месяца верасьня Дубінскі прыймаў актыўны ўдзел у архэолёгічнай экспэдыцыі пры раскопках палеолітычнае стаянкі каля в. Бярдыж па р. Сожы ў 6 клм. ад Чачэрску сумесна з археолёгам К. М. Палікарповічам і пры раскопках поля пахавальных урн каля Н.-Быхава.

---

## Камісія Аховы Помнікаў.

*Часьць арганізацыйная.* Камісія аховы помнікаў, будучы органам адміністрацыйна-кіраўнічым і адначасова навукова-дасьледчым, вяла ўсю справу выяўленьня, вывучэньня, рэгістраваньня і аховы на тэрыторыі БССР помнікаў старажытнасьці, быту, культуры, мастацтва і прыроды. Яна-ж выпаўняла функцыі навуковай экспэртызы і концэнтрацыі помнікаў.

Для выпаўненьня сваіх працоўных абавязкаў Камісія мела: а) Прэзыдыум у складзе 2-х асоб—Старшыні і Навуковага Сакратара; б) Пленум у складзе Прэзыдыуму Камісіі і па адным прадстаўніку ад Цэнтральнага Бюро Краязнаўства, Прыродазнаўчай Сэкцыі, Гістарычна-Археолёгічнай Камісіі, ад Камісіі Гісторыі Мастацтва, Наркамасьветы, Наркамзему, Наркаміндзелу, Дзяржаўнага Музэю і Галоўархіву; в) Інстытут упаўнаважаных па ахове помнікаў па 2 асобы на кожную акругу.

Прэзыдыум вёў фактычна ўсю работу Камісіі як плянавую, так і паўсядзёвую. Чарговыя пасяджэньні Прэзыдыуму адбываліся кожны тыдзень у чацьвяргі, а выпадковыя ў меру патрэбы. На працягу мінулага акадэмічнага году было ўсяго 32 чарговых і 8 выпадковых паседжаньняў, на якіх разгледжана ўсяго 240 пытаньняў адміністрацыйна-кіраўнічага і навукова-дасьледчага зьместу.

Пленум Камісіі склікаўся для разгляду пытаньняў прынцыповага характару—напрамкі ў кіраваньні работамі Камісіі, пэрыодычныя справаздачы яе, пляны і каштарысы і іншыя пытаньні. Паседжаньняў Пленуму адбылося 2 на працягу справаздачнага году.

Упаўнаважаныя Камісіі Аховы Помнікаў, на падставе існуючых законаў, вялі на мясцох апісаньне, рэгістраваньне і ахову помнікаў, а таксама выконвалі ўсякага зьместу даручэньні Камісіі мясцовага значэньня.

*Асабовы склад Камісіі:* Члены Прэзыдыуму — Старшыня М. І. Мароз, Навуковы Сакратар І. А. Сербаў.

Члены Пленуму—прадстаўнікі Інбелкультру: Я. П. Каранеўскі, А. З. Казак, З. І. Даўгяла і М. М. Шчакаціхін; прадстаўнік НКА т. Сьцяпанаў, НКЗ т. Іванаў, НУД т. Стэкель, Дзяржмузэю т. Харламповіч і Галоўархіву т. Мялешка.

Упаўнаважаныя ў акругах: Бабруйскай—т. т. Акуліч і Тараймовіч; Барысаўскай—т. т. Самцэвіч і Сманцар; Віцебскай — т. т. Поляк і Багародзкі; Аршанскай—т. т. Ганчарык і Васілеўскі; Калінінскай т. т. Купцэвіч і Гірконт; Магілеўскай — т. т. Вянюкоў і Гарбацэвіч; Мазырскай —т. т. Калодкін і Крукоўскі; Менскай—т. т. Серафімаў і Сцапуржынскі; Полацкай— т. т. Маркевіч і Мялешка; Слуцкай — т. т. Рушкевіч і Нікіцінскі.

*Інструкцыі, правілы і законы.* Для аформаваньня самае Камісіі, яе праў і абавязкаў, сувязі з камісіямі, сэкцыямі і аддзеламі Інбелкультру, а таксама сувязі з дзяржаўнымі ўстановамі і грамадзкімі організацыямі—зложаны:

1. Правілы Камісіі ў справе аховы помнікаў, дзе акрэсьлены прававыя нормы Камісіі, яе організацыйныя формы, правы і абавязкі.

2. Правілы для ўпаўнаважаных ад Камісіі Аховы Помнікаў, дзе таксама акрэсьлены правы і абавязкі ўпаўнаважаных.

3. Правілы-інструкцыі для выяўленьня помнікаў старажытнасьці, быту, культуры, мастацтва і прыроды.

4. Правілы-інструкцыі для тэхнічных апісаньняў помнікаў.

5. Законы аб парадку аховы помнікаў старажытнасьці, быту, мастацтва і прыроды, — зацьверджаныя Саўнаркомам БССР 1/VII—1926.

*Часьць опэрацыйная.* На працягу справаздачнага году праведзены наступныя працы ў парадку плянавых заданьняў.

Выяўлены найбольш выдатныя помнікі старажытнасьці, быту, мастацтва і прыроды: будынкі каштоўныя па сваёй гістарычнасьці, стылі і архітэктуры; помнікі вобразнага мастацтва; заказьнікі, ботанічныя сады і паркі. Установлены поўны назоў кожнага помніка, яго адрас і сучаснае становішча, каштоўнасьць, утрыманьне і ахова помніка. На падставе набытых матар'ялаў зложаны сьпіскі помнікаў аддзельна ў кожнай акрузе. Пасьля ўзгодненьня набытых матар'ялаў з акруговымі выканаў-

чымі камітэтамі помнікі, паводле сьпіскаў, за выключэньнем Мазырскай акругі, адкуль матар'ялаў сваечасова не паступіла, — былі Саўнаркомам абвешчаны дзяржаўнай уласнасьцю 1/VII і 1926 г.

Дадатковыя сьпіскі помнікаў Мазырскай акругі, а таксама тых помнікаў, якія не ўвайшлі ў раней абвешчаныя сьпіскі, зложаны і будуць прадстаўлены ў Саўнарком разам са сьпіскамі помнікаў Гомельскай і Рэчыцкай акруг.

Мінулым летам праведзена фотографаваньне помнікаў г. Менску і яго ваколіц. Сфотографаваны гістарычныя мясцовасьці, плошчы і вуліцы, гістарычныя ці каштоўныя сваім архітэктурным стылем будынкі, а таксама старажытныя гарадзішчы і замчышчы. Такім чынам сабрана каля 200 фотографічных картак старога гораду на Нямізе і новага гораду і яго ваколіц.

Сабраны матар'ялы і зложаны сьпіскі мясцовасьцяй на тэрыторыі БССР, дзе знойдзены помнікі прагістарычных часоў: палеолітычнага, нэолітычнага і бронзавага веку, а таксама пэрыоду гарадзішч і курганнай культуры.

*Часьць выдавецкая.* Камісія аховы помнікаў паставіла сабе заданьне кожны год выпускаць монографічны зборнік з апісаньнем помнікаў. Прычым у першую чаргу прыгатаваны для друку „Зборнік" з апісаньнем г. Менску і яго ваколіц, з малюнкамі, фотографічнымі здымкамі, плянамі і картамі. У „Зборніку" намечаны разьдзелы:

1. Прырода і помнікі прыроды Менску і яго ваколіцы.
2. Менск у прагістарычныя часы, уключна да канца XII стагодзьдзя.
3. Менск з XIII па XIX стагодзьдзе, на падставе актаў і документаў.
4. Апісаньне сучаснага Менску і яго ваколіц, справачнага характару.
5. Менск у помніках мастацтва і архітэктурнага стылю.
6. Менск у помніках старажытнасьці XV—XIX стагодзьдзя.
7. Менск у часы рэволюцыйнага руху, паводле документаў і архіўных матар'ялаў.
8. Менск з боку прамысловасьці і гандлю.
9. Бібліографія.

Апроч таго, прыгатавана монографія Полацкага Сафійскага Сабору.

*Праца Камісіі на мясцох.* Праз сваіх упаўнаважаных Камісія часткаю правяла тэхнічнае апісаньне помнікаў, якія ўжо абвешчаны дзяржаўнай уласнасьцю.

———

## Соцыяльна-Гістарычная Сэкцыя.

У пачатку справаздачнага 1926-27 году была, згодна пастановы Прэзыдыуму ІБК, організавана Соц.-Гіст. Сэкцыя замест Гісторыка-Архэолёгічнае. Першы організацыйны сход адбыўся 20 кастрычніка 1926 г. Гэтая дата і зьяўляецца датай пачатку працы Соц.-Гіст. Сэкцыі. На агульным сходзе быў выпрацаваны плян працы на бягучы год і ўхвалена, што агульныя сходы будуць адбывацца кожную сераду. Так яно ў далейшым і было,—амаль што кожны тыдзень адбываўся агульны сход. Для кіраваньня працай быў вызначаны Прэзыдыум сэкцыі, які склаўся з наступных таварышоў: Старшыня сэк., заслужаны профэсар, Правадзейны член ІБК Ул. І. Пічэта, Намесьнік Старшыні т. Мароз, Адказны Сакратар доцэнт БДУ, правадзейны член ІБК В. Д. Дружчыц, сябрамі Прэзыд.—правадзейны член ІБК т. М. Мялешка, член-супрацоўнік ІБК, доцэнт БДУ З. І. Даўгяла. Абавязкі тэхнічнага сакратара былі ўскладзены на асьпіранта БДУ А. В. Бурдзейка. Сэкцыя аб'яднала навакол сябе ўсіх менскіх працаўнікоў, якія займаюцца вывучэньнем мінулага Беларусі, як ужо вядомых са сваіх прац, так і толькі пачынаючых сваю навуковую дзейнасьць. У склад сэкцыі ўваходзіла 39 чалавек. З ліку сяброў сэкцыі 6 чал. было правадзейных членаў ІБК і 3 членысупрацоўнікі ІБК. У сярэднім на сходзе прысутнічала 15-20 чалавек. Апрача сяброў сэкцыі на сходах прысутнічалі і госьці. Сходы былі заўсёды адчыненымі. Сходы займаліся галоўным чынам заслухоўваньнем і абгаварваньнем навуковых дакладаў, часамі ставіліся і організацыйныя пытаньні. У працягу справаздачнага году былі зроблены наступныя навуковыя даклады:

1. Доц. *Даўгяла*—Гістарычны нарыс Заслаўя.
2. Асыстэнт т. *Ляўданскі*—Вынікі архэолёгічных раскопак у Заслаўі.
3. Тав. *Гэмбіцкі* — Значэньне „Аль-Кітаба“ для духоўнае культуры татар у Беларусі ў XVI—XVIII ст.
4. Проф. *Пічэта* — Спрэчныя пытаньні беларускае архэолёгіі.
5. Асьпірант *Бурдзейка*—Зямляўласьнік і земляроб паводле Літоўскага Статуту 1566 г.
6. Асьпірант *Забела*—Насельніцтва на панскіх грунтох у другой палове XVIII ст.
7. Доцэнт *Даўгяла*—Пролетарскі рух у Магілеве ў пачатку XVII сталецьця.
8. Тав. *Аніхоўскі*—Раскопкі кургана могілкаў каля вёскі Чаркасы.
9. Асьп. *Бурдзейка*—Места Наваградак у XVI ст.
10. Доц. *Дружчыц* — Агляд літаратуры да гісторыі беларускіх мест.

11. Тав. *Дубінскі*—Банцыраўскае гарадзішча.
12. Проф. *Сосіс*—Сучаснае становішча крыніц да соцыяльнай гісторыі яўрэяў на Беларусі.
13. Асьп. *Забела*—Зямляўласьнік паводле Статуту 1588 г.
14. Тав. *Кернажыцкі*—Становішча насельніцтва староставў у другой палове XVIII стагодзьдзя.
15. Асьпір. *Шыёнак-Таўсталес*—Грамадзкае права ў Літоўскім Статуце.
16. Доц. *Шчакаціхін*—Архітэктурныя помнікі ў Менску.

Даклады выклікалі заўсёды жывы абмен думак і ў спрэчках прымаў удзел значны лік таварышоў. Частка прачытаных дакладаў надрукавана ў Гістарычна-Археолёгічным зборніку № 1. ІБК. Менск, 1927 г.

Галоўнай перашкодай у працы сэкцыі зьяўлялася адсутнасьць сродкаў на выдавецкую справу, а таксама і на неабходныя навуковыя камандыроўкі. Платнай зьяўлялася толькі пасада тэхнічнага сакратара сэкцыі.

---

## Сэкцыя мастацтва.

Мастацкая Сэкцыя адбыла свой першы організацыйны сход 27 лютага 1925 г. Члены ІБК і запрошаныя на працу ў сэкцыю мясцовыя працаўнікі розных галін мастацтва разгрупаваліся адпаведна сваёй спэцыяльнасьці паміж трох падсэкцый— Тэатральнай, Музычнай і Прасторавых Мастацтваў; Падсэкцыі-ж у сваю чаргу выдзелілі шэраг сталых і часовых камісій. Працаю Мастацкай Сэкцыі, кіраваў Прэзыдыум сэкцыі, у склад якога ўходзілі: Я. Л. Дыла (старшыня) і М. М. Шчакаціхін (навук. сакратар).

### *Камісія гісторыі тэатру.*

Тэатральная падсэкцыя распачала сваю працу 6 сакавіка 1925 г. Увесь час, за выключэньнем першай паловы 1927 г., дзейнасьцю падсэкцыі кіраваў яе Прэзыдыум у складзе М. Красінскага (старшыня) і М. Ільлінскага (сакратар); склад членаў падсэкцыі часткова мяняўся, складаючыся (агульным лікам 12-20 асоб) аднак пераважна з членаў ІБК і працаўнікоў мясцовых мастацкіх устаноў. Плян працы падсэкцыі быў пабудаваны выходзячы з патрэбы вывучэньня стану тэатральнай справы ў БССР і ўзьняцьця дзяржаўных тэатраў на большую мастацкую вышыню; вывучалася мінулае беларускага тэатру, распрацоўвалася тэатральная тэрмінолёгія.

Фактычна дзейнасьць падсэкцыі ў 1925 і 1926 г. г. выявілася ў форме заслуханьня і абгавору шэрагу дакладаў на

чарговыя тэмы тэатральнага жыцьця і ў працы заснаваных камісій. Паколькі Тэатральная падсэкцыя аб'яднала найбольш сьвядомых у гэтай справе працаўнікоў Менску і разглядала сваю працу, як працу накіраваную ў бок узьняцьця мастацкай якасьці дзейнасьці тэатральных установ БССР, умовы гэтай працы падсэкцыі склаліся так, што сам Камісарыят Асьветы і Галоўпалітасьветы лічылі патрэбным абгавор у падсэкцыі некаторых практычна-організацыйных пытаньняў.

У спэцыяльнай камісіі быў перагледжаны ўвесь орыгінальны беларускі драматычны рэпэртуар, які складае сабою да 150 п'ес; выявілася, што пераважная большасьць яго—аднаактоўкі і двохактоўкі, а разам з тым усе яны, за нязначным выключэньнем, і з ідэолёгічнага і з мастацкага боку, ня могуць складаць належнага рэпэртуару, адпавядаючага нашаму часу і мастацкім магчымасьцям дзяржаўных тэатраў. Выразна вынікала патрэба ўзмацніць новую драматургічную творчасьць, для чаго організаваць хаця-ж бы кароткатэрміновы драматургічны сэмінарыум для маладых беларускіх драматургаў.

Гэткі драматургічны сэмінарыум адбыўся на працягу 7 тыдняў—з 8 сьнежня 1925 г. да 23 студзеня 1926 г. У якасьці лектароў было запрошана 12 мясцовых працаўнікоў і адзін лектар з Масквы. Кіраваў сэмінарыумам доцэнт БДУ А. І. Бабарычэўскі. Была сформавана для заняткаў спэцыяльная бібліотэчка, частка кніг якое была выпісана з Нямеччыны. Лекцыі знаёмілі слухачоў з гісторыяй тэатру, пачынаючы ад антычнага і канчаючы сучасным рэволюцыйным тэатрам, з тэорыяй драматычнага твору, з тэорыяй і практыкай сучаснае сцэны, з тымі вымогамі, якія ўплываюць на будову драматычных твораў, з патрэбамі работніцка-клюбнае сцэны. Было таксама дадзена азнаямленьне з драматургіяй і тэатрамі суседніх з Беларусьсю краін—з тэатрамі і драматургіяй украінскай, польскай і яўрэйскай.

Даўно ўжо адчувалася патрэба ў вывучэньні беларускага народнага танцу. Камісія, зложаная пераважана са знаўцоў гэтага танцу (як напр., Родзевіч Ч., Грыневіч А. і інш.), паклала пачатак вывучэньню нашага танцу тым, што організавала выезд на вёску спэцыяліста ў гэтай галіне (балетмайстра БДТ I), а разам з тым рыхтуе да выданьня зборнік, у якім сабраны запісы танцавых мэлёдый, слоўныя тэксты прыпевак і самыя апісаньні танцаў у іх народным выкананьні.

Тэрмінолёгічная Камісія Тэападсэкцыі апрацавала беларускую тэрмінолёгію тэатру лікам да 1.000 тэрмінаў, якая ў 1928 г. будзе надрукавана.

Заслугове асаблівае ўвагі заснаваны падсэкцыяй т. зв. Тэатральны музэй Інстытуту Беларускае Культуры.

Труднасьць вывучэньня гісторыі нашага тэатру тлумачыцца тым, што матар'ялы да гэтага ніякай інстытуцыяй ня зьбіраліся, а складалі сабою толькі пераважныя зборы аддзельных асоб, якія цікавіліся беларускім тэатрам. Гістарычна-Музэйная камісія ІБК паклала пачатак справе згуртаваньня гэтых матар'ялаў у адзіны для Беларусі Тэатральны музэй. Сабрана зараз звыш 1.000 паасобных нумароў-экспонатаў пераважна са збораў Родзевіча Ч., Мядзёлкі П., Ільлінскага М., Красінскага М., Галубка У., Дылы Я. і інш. Недахват памяшканьня ў Інбелкульце змушае зборы Тэатральнага музэю трымаць на перахове ў шафах бяз выстаўкі на агляд шырокае публікі. Гэта-ж зьяўляецца перашкодаю да перадачы музэю макетаў усіх дзяржаўных тэатраў, якія ўстрымваюцца ад гэтага, ня бачачы забясьпечаньня сваіх экспонатаў належным доступам да іх агляду і вывучэньня.

Трэба адзначыць яшчэ, што з колаў Тэападсэкцыі вышла ініцыятыва ўтварэньня беларускага таварыства драматургічных пісьменьнікаў, якое зараз ужо з посьпехам разьвінае сваю дзейнасьць. Большасьць дакладаў падсэкцыі будуць друкавацца ў зборніку БДТ І „Беларускі тэатр", прысьвечаным дзесяцігодзьдзю беларускага савецкага тэатру.

### *Камісія вывучэньня народнае музыкі.*

Музычная падсэкцыя адбыла свой першы сход 20 сакавіка 1925 г., аб'яднаўшы сабою 10-12 працаўнікоў Менску. Прэзыдыум, які бяз малага ўвесь час кіраваў працаю падсэкцыі, складаўся з тав. Селяха В. (старшыня) і А. Грыневіча (сакратар). Музычная падсэкцыя таксама страціла шмат свайго часу, каб адказаць сваёю працаю патрэбам чарговага дня: абгаварваліся пытаньні лепшай організацыі музычнае асьветы ў БССР, пасылкі народных музыкаў на міжнародныя выстаўкі, дабору лепшага рэпэртуару для концэртаў беларускае песьні і музыкі.

За мінулы час праироблена была наступная найбольш каштоўная праца.

Апрацавана і выдана друкам беларуская музычная тэрмінолёгія лікам каля 900 тэрмінаў-слоў. У Камісіі беларускае музыкі абгавораны і экспэртаваны былі працы вядомага зьбіральніка і знаўца народнае песьні А. Грыневіча, які на працягу значнага часу рабіў строгі з мастацка-музычнага і пэдагогічнага боку дабор беларускіх песень для зложаных ім 2 зборнікаў: „Школьны сьпеўнік" (130 песень) і „Зборнік народных песень" для хораў (50 песень). Апрача таго гэтая камісія разглядзела інструмэнтальныя творы М. Аладава, І. Фідлона, С. Навацкага і інш.

Найбольш значную працу правяла Камісія Беларускае Песьні, работа якое зьяўлялася асноваю працы Музычнае падсэкцыі. А. Грыневічам была апрацавана інструкцыя для зьбіраньня

беларускіх мэлёдый. Дадзена ацэнка сьпеўнаму рэпэртуару з 250 песень, гармонізаваных калісьці ў Маскве членамі Беларускай Песеннай Камісіі і прызначаных да выданьня Белдзяржвыдатам. Былі набыты песьні, запісаныя М. Чуркіным у Магілеўшчыне і Р. Азаронкам у Лепельшчыне; да 100 песень запісана фонографам у Магілеўшчыне і Калініншчыне. За 1926 і 1927 г. г. былі праведзены наступныя экспэдыцыйныя дасьледваньні беларускае песьні: А. Грыневічам сабрана 150 народных песень у Себескім, Невельскім і Вяліскім паветах; ім-жа ў Тураўскім раёне сабрана звыш 200 песень, а таксама значная колькасьць народных гульняў і скокаў. Усе гэтыя каштоўныя матар'ялы рыхтуюцца зараз да друку і выйдуць паасобнымі сшыткамі.

## *Камісія гісторыі мастацтва.*

Падсэкцыя прасторавых мастацтваў паўстала з 27 лютага 1925 г., маючы ў сваім складзе ў першым часе да 18 асоб. У меру разьвінаньня працы лік членаў падсэкцыі ўсё зьмяншаўся, пакуль к 1927 г. не дасяг вельмі абмежанага ліку працаўнікоў Камісіі гісторыі мастацтва. Як і іншыя падсэкцыі, падсэкцыя выяўленчых мастацтваў патраціла шмат сіл і часу, каб задаволіць бягучыя патрэбы нашага мастацкага жыцьця—так вывучаліся пытаньні, зьвязаныя з належнаю організацыяй мастацкае асьветы на Беларусі, пытаньні насычаньня мастацкімі элемэнтамі нашае вытворчасьці, справа організацыі мастацка-вытворчых сіл у БССР (выключнымі сіламі падсэкцыі была наладжана першая ўсебеларуская мастацкая выстаўка і са значным удзелам гэтых-жа сіл—другая ўсебеларуская выстаўка). У навукова-дасьледчым напрамку трэба адзначыць працы т. М. Шчакаціхіна, старшыні гэтае падсэкцыі. Дзякуючы яго працы з катэдры гісторыі беларускага мастацтва ў БДУ і шэрагу камандыровак ад ІБК у Ленінград, Маскву, Смаленск, Віцебск, Магілеў, Слуцак і інш. месцы, пры дапамозе адпаведных інстытуцый ім было сабрана шмат фотоздымкаў і зарысовак, якія склалі сабою каштоўныя матар'ялы для навуковае распрацоўкі гісторыі нашага мастацтва. Гэта і дало магчымасьць ужо ў 1926/27 годзе перавесьці працу падсэкцыі выключна на навукова-дасьледчы напрамак, організаваўшы дзеля гэтага Камісію гісторыі мастацтва.

Камісія гісторыі мастацтва заснавалася ў пачатку 1926 г., у выніку рэорганізацыі раней існаваўшае ў складзе Сэкцыі Беларускага Мастацтва Камісіі беларускага стылю. Праз увесь час працай Камісіі кіраваў старшыня М. Шчакаціхін пры сакратары А. Шлюбскім. У склад членаў і супрацоўнікаў Камісіі ўходзілі наступныя асобы: А. Грубэ, В. Дабравольскі, З. Даўгяла, В. Дружчыц,

З. Жарынаў, М. Касьпяровіч, П. Красавіцкі, В. Красьнянскі, М. Міхалап, А. Паноў, Ч. Родзевіч, М. Станюта, А. Тычына, І. Фурман, Т. Ржэвуская, І. Хозераў і Б. Эпімах-Шыпіла. У новай структуры ІБК Камісія гісторыі мастацтва засталася ў складзе Дасьледчага інстытуту для вывучэньня мастацтва, пад старшынствам М. Шчакаціхіна, але ў значна скарочаным ліку сталых сваіх навуковых працаўнікоў і супрацоўнікаў.

За справаздачны час членамі Камісіі зроблена была наступная дасьледчая праца:

Старшыня Камісіі М. Шчакаціхін у часе экспэдыцыйных выпраў у розныя часткі Беларусі, а таксама ў часе некалькіх навуковых камандыровак у Ленінград зьбіраў матар'ялы і вёў адпаведныя досьледы ў наступных пытаньнях: дэталі першапачатковае конструкцыі полацкае Сафіі, фрэскавыя росьпісы полацкага Бельчыцкага манастыра, помнікі беларускага малярства XIV-XV ст. у Польшчы, беларускае малярства XVII-XVIII ст., беларуская драўляная архітэктура, беларускія майстры ў Маскоўшчыне, слуцкія паясы і інш. Ён-жа супольна з Т. Ржэвускай займаўся ўлетку 1926 г. ў Магілеве вывучэньнем помнікаў магілеўскае малярскае школы XVII-XVIII ст., а таксама помнікамі магілеўскае архітэктуры. А. Шлюбскі зьбіраў матар'ялы датычныя беларускае выбайкі. В. Дабравольскі вывучаў у Віцебскіх архівах дакумэнтальныя крыніцы да гісторыі віцебскага драўлянага будаўніцтва. Такую самую працу рабіў і В. Красьнянскі ў дапасаваньні да пляну м. Віцебска 1664 г., а таксама распрацоўваў некаторыя матар'ялы са збораў Віцебскага аддзяленьня Белар. Дзярж. Музэю, напрыклад батлейку, а таксама паліваныя кахлі XVII-XVIII ст. (апошнія разам з М. Міхалапам). Т. Ржэвуская апрацоўвала матар'ялы аб магілеўскім малярстве XVIII-XVII ст., і вывучала на месцы насьценныя росьпісы ў царкве б. Тупічаўскага манастыра ў Мсьціслаўлі. І. Хозераў дасьледваў помнікі архітэктуры XI-XII ст. ў Віцебску і Полацку шляхам экспэдыцыйнае выправы, і стала вывучаў смаленскую архітэктуру як таго самага, гэтак і пазьнейшага часу. Агулам камісія сабрала звыш 600 №№ разнастайных навуковых матар'ялаў (фотографій, зарысовак, плянаў і г. д.), на аснове якіх распрацавала некаторыя паасобныя тэмы.

У навуковых паседжаньнях камісіі за справаздачны час былі заслуханы наступныя даклады: 1) *М. Шчакаціхіна:* Беларуская архітэктура XI-XII ст. 2) *П. Красавіцкага:* Віцебская Ільлінская царква як помнік беларускага драўлянага будаўніцтва. 3) *М. Шчакаціхіна:* Замак у Рагачэве. 4) Яго-ж: Орнамэнтальныя росьпісы Сьмядынскай Барысаглебскай царквы ў Смаленску. 5) *М. Касьпяровіча:* Беларускі кніжны знак. 6) *Т. Ржэвускай:* Орнамэтаваныя фоны ў помніках магілеўскага маляр-

ства XVII-XVIII ст. 7) *М. Шчакаціхіна*:Новыя архіўныя матар‘-ялы. 8) *В. Красьнянскага*: Батлейка Віцебскага аддзяленьня Бел. Дзярж. Музэю. 9) *М. Нікіцінскага*: Царква Нараджэньня ў Слуцку. 10) *М. Шчакаціхіна*: Аб забытым беларускім маляры канца XVIII ст. Грыгору Мядзьведзкім. 11) *І. Хозерова*: Аб Спасаўскай царкве ў Полацку. 12) *М. Сыркіна*: Яўрэўская драўляная архітэктура.

Былі апублікаваны ў друку наступныя працы:

*М. Шчакаціхін*. Каталёг аддзелу старажытнага мастацтва 1-й Усебеларускай мастацкай выстаўкі. Менск, 1926.

*М. Шчакаціхін*. Дрэварыты і орнамэнт у выданьнях Скарыны. „Наш Край“ 1926, № 1 (4).

*М. Шчакаціхін*. Гравюры і кніжныя аздобы ў выданьнях Францішка Скарыны ў „Чатырохсотлецьці беларускага друку“. Менск, 1926.

*М. Шчакаціхін*. Орнамэнтальныя росьпісы Сьмядынскай Барысаглебскай царквы ў Смаленску—у „Гістарычна-Архэолёгічным зьборніку“ № 1, выд. Інст. Бел. Культуры, Менск, 1927.

*М. Шчакаціхін*. Новыя архіўныя матар‘ялы. Там сама.

*М. Шчакаціхін*. Белорусское искусство (на расійскай мове). Большая Советская Энциклопедия, т. V.

*М. Шчакаціхін*. Замак у Рагачэве. „Наш Край“, 1926, № 10-11 (13-14).

*Ів. Хозераў*. Да пытаньня аб Спасаўскай царкве ў Полацку.—„Гістарычна-Архэолёгічны зборнік“ № 1. Менск, 1927.

Падрыхтаваны да друку першы выпуск „Прац Камісіі гісторыі мастацтва“ наступнага зьместу:

1) *М. Шчакаціхін*: Архітэктурныя помнікі XVII-XVIII ст. ў Менску. 2) *В. Красьнянскі:* „Плян м. Віцебска“ 1664 г. як докумэнтальны помнік да гісторыі беларускага драўлянага будаўніцтва. 3) *І. Хозераў:* Палацкая архітэктура старадаўняга пэрыоду. 4) *Т. Ржэвуская:* Росьпісы мсьціслаўскага Тупічаўскага манастыра. 5) *П. Красавіцкі:* Віцебская Ільлінская царква. 6) *В. Красьнянскі:* Батлейка Віцебскага аддзяленьня Бел. Дз. Музэю.

---

## Аддзел Мовы і Літаратуры.

Да пачатку 1926-27 акад. году пытаньнямі дасьледваньня мовы, літаратуры і этнографіі ведалі наступныя самастойныя ўстановы Інбелкульту: 1) сэкцыі: а) мовазнаўчая, б) літаратурная і в) этнографічная і 2) камісіі: а) для складаньня слоўніка жывой беларускай мовы, б) тэрмінолёгічная і в) камісія для выданьня твораў беларускіх пісьменьнікаў. Аднак, практыка

працы паказала, што такі вялікі лік самастойных установў пры адсутнасьці аднаго аб'яднаўчага цэнтру зусім распыляў і без таго малы лік навуковых працаўнікоў па вышэйзазначаных дысцыплінах, шкодна адбіваючыся на працы гэтых установў. Каб ухіліцца гэтай распылёнасьці і згуртаваць у адно навуковыя сілы, Прэзыдыум Інбелкульту з пачатку 1926-27 акад. году організаваў Аддзел Мовы і Літаратуры, у склад якога ўвайшлі вышэйзазначаныя тры сэкцыі і тры камісіі. Паколькі-ж агульныя сходы Аддзелу сталі замяняць працу і ранейшых сэкцый, то апошнія зусім адпалі, і такім чынам у складзе Аддзелу засталіся толькі тры ранейшых камісіі. Для дасьледваньня пытаньняў дыялектолёгіі і фольклёру была заснавана новая Фольклёрна-Дыялектолёгічная камісія. Такім чынам, у мінулым акад. годзе ў Аддзел Мовы і Літаратуры ўваходзіла чатыры сталыя камісіі. Старшынёй Аддзелу быў прызначаны С. М. Некрашэвіч; сакратаром—Ул. Жылка.

Гадавая практыка працы Аддзелу паказала, што зробленая рэформа была ў поўнай меры мэтазгоднай. Перш за ўсё, дзякуючы контролю Аддзелу і разгляду плянаў працы Камісій, удалося правільна наладзіць працу ў гэтых Камісіях. Аддзелам таксама была зьвернута ўвага на навуковую працу яго членаў. Вынікі гэтай працы зачытваліся на сходах Аддзелу. У мінулым акад. годзе на агульных сходах Аддзелу чыталіся наступныя даклады:

1. *Цьвяткоў*—„Організацыйныя спосабы і пэрспэктывы слоўніка-тэрмінолёгічнай і правапіснай працы на Украіне".

2. *Сербаў*—„Этнографічнае апісаньне паўночнае Беларусі (Невельскі, Себескі, Вяліскі паветы)".

3. *Цьвяткоў*—„Да пытаньня аб укладаньні гістарычнага слоўніка беларускае мовы".

4. *Замоцін*—„Справаздача аб працы і плян працы Літаратурнае Камісіі ІБК на бягучы акадэм. год."

5. *Байкоў*—„Справаздача аб працы і плян працы Слоўнікавай Камісіі на бягучы акадэмічны год.

6. *Лёсік*—„Справаздача аб працы і плян працы на бліжэйшы час Галоўнае Тэрмінолёгічнае Камісіі".

7. *Бузук*—„Справаздача аб працы і плян працы на бягучы акадэм. год Фольклёрна-Дыялектолёгічнае Камісіі".

8. *Бузук*—„Характарыстыка паўднёвых беларускіх гутарак".

9. *Воўк-Левановіч*—„Выдатнейшыя фонэтычныя рысы з гаворкі вёскі Татаркавіч Сьвіслацк. раёну."

10. *Бузук*—„Пытаньні аб выданьні фольклёрнага матар'ялу."

11. *Пятуховіч*—„Творчасьць Ядвігіна Ш."

12. *Байкоў*—„Да пытаньня аб чужаземных словах у нашай мове“.

13. *Цьвяткоў*—„Некаторыя асаблівасьці беларускай мовы філёмата Яна Чачота“.

14. *Шлюбскі*—„Беларуская мова і цэнзура ў XIX ст.“

15. *Лёсік Я.*—„Слоўнік беларуска-расійскі М. Байкова і С. Некрашэвіча“.

16. *Бузук*—„Гутарка Асіпавіцкага раёну“.

17. *Бузук*—„Аб навуковых экспэдыцыях“.

18. *Цьвяткоў*—„Некалькі слоў аб беларусізмах у польскай мове філёматаў“.

19. *Лёсік А.*—„Злучэньне прыназоўніка *па* з месным і давальным склонамі ў запісах народных твораў і ў сучаснай літаратурнай мове“.

20. *Некрашэвіч*—„Мова кнігі Касьяна Рымляніна Ераміты XVII в“.

21. *Бузук*—„Праца Украінскай правапіснай конфэрэнцыі“.

Апрача таго, на Акадэмічнай Конфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі членамі Аддзелу былі прачытаны наступныя даклады:

1. *С. Некрашэвічам*—„Сучасны стан дасьледваньня беларускай мовы“.

2. *Ім-жа*—„Да пытаньня аб рэформе беларускага правапісу“.

3. *П. Бузуком*—„Становішча беларускай мовы сярод іншых славянскіх моваў“.

4. *Я. Лёсікам і Растаргуевым*—„Да рэформы беларускай азбукі“.

5. *Я. Лёсікам*—„Да рэформы беларускага правапісу“.

6. *М. Гарэцкім*—„Агляд беларускай літаратуры“.

7. *Пятуховічам*—„Асноўныя этапы разьвіцьця новай беларускай літаратуры“.

8. *Вазьнясенскім*—„Поэтычнае мастацтва навейшай беларускай літаратуры“.

9. *Галомбэкам*—„Дасьледваньне беларускай літаратуры XIX ст. да 1863 г.“

10. *Цьвятковым*—„Некалькі слоў аб беларускім элемэнце ў польскай лексыцы“ (не зачытаны).

Даклады, зробленыя на сходах Аддзелу, друкуюцца ў „Запісках“ Аддзелу, а зробленыя на акадэмічнай Конфэрэнцыі надрукованы ў „Працах Акадэмічнай Конфэрэнцыі“.

Аддзел Мовы і Літаратуры таксама вёў нагляд за друкам усіх выданьняў Аддзелу.

*Камісія для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы.*

Камісія існуе ад часу рэорганізацыі ІБК у пачатку 1925 г. Першы організацыйны сход Камісіі адбыўся 26 лютага 1925 г. Праца ў Камісіі пачалася пасьля дакладу нав. сакратара М. Байкова аб мэтодах слоўнікавае працы Ўсеукраінскай Акадэміі Навук (24-III-1925) і набыла сталы характар пасьля дакладу старшыні Камісіі С. Некрашэвіча „Да пытаньня аб укладаньні слоўніка жывой беларускай мовы“ (8-VII-1925).

У асабовым складзе Камісіі ў 1925-1927 г. былі, як штатныя працаўнікі, старшыня—С. М. Некрашэвіч, нав. сакратар—М. Я. Байкоў, на пажатоннай аплаце — член-рэдактар Бр. Іг. Эпімах-Шыпіла. Апроч таго пад непасрэдным кіраўніцтвам навуковага сакратара працавалі ў 1926/1927 оп. г. наступныя асобы: М. Л. Серада-Бязьверхава, Янка Бялькевіч, Н. Улашчык, Вольга Лойка, Уладз. Кулеўскі, Таццяна Калітоўская, Яніна Паўловіч. Праца над матар'яламі Камісіі (занясеньне на карткі слоўніка Яз. Ціхінскага і ўпарадачаньне карткавага матар'ялу) адбывалася ў самым памяшканьні Слоўнікавае Камісіі (супрацоўнікі—Т. Калітоўская і Я. Паўловіч).

У 1926-1927 оп. г. праведзена вось якая дасьледчая праца: дакончаны апрацаваньнем пасобны слоўнік да твораў Ц. Гартнага (М. Л. Серадой-Бязьверхавай), апрацаваны карткі першай ступені да твораў Коласа (Т. Калітоўскай), выбраны словы з твораў малодшых пісьменьнікаў груп Маладняк і Ўзвышша (В. Лойкай), выбраны словы з твораў Фр. Аляхновіча і „Нашай Нівы“ за ўсе гады (Ул. Кулеўскім), апрацоўваўся слоўнік да твораў Зьм. Бядулі (Н. Улашчык) і Ал. Гаруна (Ян. Бялькевічам).

На мясцох ішла праца ўкладаньня краёвых слоўнікаў: Чэрвенскага (М. Шатэрнік), Калінінскага (Я. Бялькевіч), Мазырскага (А. Крукоўскі).

Навуковым сакратаром Камісіі былі зроблены інструкцыйныя паказаньні ў артыкулах, надрукаваных у журналах: „Асьвета“ (1927 г., № 2), „Наш Край“ (1927 г., № 3) і газэце „Савецкая Беларусь“ ад 30-III-1927, № 72 (1964).

Усяго адбылося ў 1926/1927 г. 16 сходаў Камісіі. Прадметам сходаў былі організацыйныя пытаньні і заслуханьне водзываў Бр. Іг. Эпімаха-Шыпілы аб карткавых матар'ялах дапішчыкаў з месц. Вызначаны паводле гэтых водзываў прэміі шэрагу падпішчыкаў.

Да тэрміну 1-X-1927 праца Слоўнікавай Камісіі выяўляецца ў вось якіх лічбавых выніках. У інвэнтарнай кнізе Камісіі запісана 240.546 аплачаных картак-слоў. Неаплачаных карткавых паступленьняў мелася да 80.000 карт.-слоў. У тым ліку—паступленьняў з мейсц да 120.000 карт.-сл. Слоўнікавай Камісіяй супольна з Віцебскім Акруговым Таварыствам Края-

знаўства ў 1927 г. выдрукаваны „Віцебскі краёвы слоўнік“, апрацаваны на падставе сабраных Т-вам слоўных матар'ялаў М. Касьпяровічам пад рэдакцыяй М. Я. Байкова і Бр. Іг. Эпімаха-Шыпілы. Усяго ў гэтым слоўніку—9.703 словы. М. Шатэрнікам пададзена ў Камісію першая палова „Чэрвенскага краёвага слоўніка“ на л. А—Н у ліку 5.665 картак. Акруговымі Таварыствамі Краязнаўства сабрана слоў паводле інструкцыі Камісіі для ўкладаньня краёвых слоўнікаў: Мазырскім—да 20.000 картак слоў Аршанскім—да 10.000, Калінінскім—да 15.000

### *Тэрмінолёгічная Камісія.*

5 Кастрычніка 1926 г. Правапісна-Тэрмінолёгічная Камісія пастановай Сакратарыяту Інстытуту Беларускае Культуры была перайменавана ў Галоўную Тэрмінолёгічную Камісію з наступным асабовым складам: Старшыня—Я. Лёсік, члены Камісіі: І. Луцэвіч, К. Міцкевіч, Л. Цьвяткоў і сакратар—А. Гурло.

У грунце свае працы Галоўная Тэрмінолёгічная Камісія кіравалася наступнымі прынцыпамі:

„Укладаньне тэрмінолёгічных проектаў вядзецца тэрмінолёгічнымі камісіямі пры Інстытуце Беларускае Культуры, навуковымі таварыствамі і іншымі організацыямі, а таксама і паасобнымі спэцыялістымі. Кожны тэрмінолёгічны проект пастурае на разгляд і зацьвярджэньне сходу Галоўнае Тэрмінолёгічнае Камісіі і бяз гэтага зацьвярджэньня не дапускаецца да ўжываньня. Пры разглядзе проектаў Камісія мае права; а) адкідаць кожны проект запрапанаваны ўкладальнікам або дакладчыкам (які абавязкава павінен быць на сходзе Камісіі пры разглядзе тэрмінолёгіі), б) знайшоўшы неадпаведным той або іншы проект, замяніць яго новым, в) выкідаць лішнія, непатрэбныя тэрміны, г) устаўляць новыя тэрміны, прапушчаныя раней з тых ці іншых прычын і д) адсылаць увесь проект тэрмінолёгіі аўтару яго для распрацоўкі і дапаўненьня.

Камісія мае на мэце выкарыстаць і, паводле магчымасьці, выкарыстоўвае моўныя крыніцы народнае гаворкі, а таксама карыстаецца ўсімі слоўнымі-друкаванымі і рукапіснымі матар'ямі. Ужываньне так званых новатвораў, а таксама чужаземных слоў дапускаецца толькі ў выпадках канечнае патрэбы ці дзеля большае навуковае дакладнасьці.

Проекты падаюцца ў камісію ў трох-чатырох мовах, а тэрміны праводзяцца з некалькімі беларускімі сынонімамі. Гэта робіцца дзеля таго, каб рабіць параўнаньні і выбіраць чыстыя і трапныя тэрміны.

Камісія пачала і мае на мэце ў далейшым рабіць рэвізію ўсіх ранейшых тэрмінолёгічных выданьняў“.

У галоўных сваіх рысах гэтыя прынцыпы захоўваліся з поўнай дакладнасьцю.

На сваіх сходах Галоўная Тэрмінолёгічная Камісія разгледзела і ўхваліла да друку наступныя тэрмінолёгіі:

1) Мэдычную (разьдзелы: „Нутраведаньне“, „Судзінаведаньне“ і „Нэрваведаньне“).

2) Сельска-гаспадарчую.

3) Глебазнаўчую.

4) Хэмічную (1-ую ч.—неарганічную хэмію).

5) Граматычна-лінгвістычную.

6) Матэматычную.

7) Бухгальтарскую.

З гэтых тэрмінолёгій надрукаваны: граматычна-лінгвістычная, матэматычная і мэдычная (вып. 2-гі myologia, splanchnologia, angiologia), а тэрмінолёгіі: хэмічная, сельска-гаспадарчая, глебазнаўчая, бухгальтарская і мэдычная вып. 3-ці Neurologia) яшчэ не надрукаваны.

Апроч бягучай работы ў самой Камісіі, членамі яе прачыталіся даклады на паседжаньнях Аддзелу Мовы і Літаратуры.

*Фольклёрна-Дыялектолёгічная Камісія.* Фольклёрна-Дыялектолёгічная Камісія, заснаваная 1-га лістапада 1926 г., працавала ў складзе старшыні П. Бузука, сакратара А. Шлюбскага і запрошаных сяброў—С. Некрашэвіча, А. Багдановіча, І. Сербава, Я. Воўк-Левановіча і прадстаўніка ЦБК.

Праца Камісіі праводзілася ў наступных кірунках:

а) Захаваньня здабытых матар‘ялаў.

Камісія паклапацілася аб тым, каб захаваць тыя матар‘ялы, якія атрымоўваліся ад ЦБК і ад іншых устаноў. Атрыманыя ад Акадэміі СССР ненадрукаваныя выпускі „Белорусского Сборника“ (X—XIV) Раманава былі перапісаны з прычыны таго, што гэтыя выпускі павінны быць зьвернуты зазначанай Акадэміі.

б) Зьбіраньне новых матар‘ялаў.

Новыя матар‘ялы атрымліваліся як цераз тое самае ЦБК, так і іншым шляхам, шляхам камандыровак і экспэдыцый. Старшынёй Камісіі на працягу справаздачнага году, з мэтай дыялектолёгічнага вывучэньня былі зроблены паездзкі ў наступныя мясцовасьці: у Невельскі і Вяліскі паветы, у Ельскі (Каралінскі) раён Мазырскай акр., у Буду-Кашалёўскую, у Рослаўскі пав. Смаленск. губ., у паўночную часьціну Чарнігаўскай губ., у Рэчыцкі п., у Тураўскі і Жыткавіцкі раёны Мазырск. акр., у Асіпавіцкі р. Бабруйскай акругі. С. Некрашэвічам былі зроблены ўлетку дзьве дыялектолёгічныя паездкі: адна ў Любаньскі р., Бабруйскай акр., а другая ў Парыцкі р. тэй-жа акругі. Для этнографічнага дасьледваньня паўн.-ўсх. часьціны беларускай эт-

нографічнай тэрыторыі была гэтым летам організавана экспэдыцыя ў складзе сяброў Сербава і Шлюбскага, якая праехала ад Смаленску да Ржэва праз Парэчча і Белы.

Для палягчэньня працы зьбіральнікам матар'ялаў былі разасланы раней надрукаваныя програмы для зьбіраньня вуснай творчасьці, а таксама складзена С. М. Некрашэвічам і П. А. Бузуком „Програма для зьбіраньня асаблівасьцяй гаворак беларускіх і пераходных да суседніх моваў“, якая вышла ў сьвет гэтым летам.

в) Друкаваньне сабраных матар'ялаў.

На працягу справаздачнага году праз Камісію прайшлі да друку наступныя працы:

1) зазначаная вышэй дыялектолёгічная програма Некрашэвіча і Бузука.

2) П. Бузука „Да характарыстыкі паўночна-беларускіх дыялектаў. Гутаркі Невельск. і Вяліск. паветаў“.

3) Яго-ж „Да характарыстыкі паўднёва-беларускіх дыялектаў. Гутаркі Мазыршчыны і паўднёв. Бабруйшчыны“.

4) П. Растаргуеў. „Беларуска-северскія гаворкі“.

5) Яго-ж „Северско-белорусский говор“.

6) Полевой. „О языке населения“.

7) А. Шлюбскі „Матар'ялы па вывучэньні фольклёру і мовы Віцебшчыны“.

8) А. Сержпутоўскі. „Казкі“ і

9) Зборнік песень м. Багацькаўкі, складзены М. Гарэцкім.

Падрыхтаваны былі ў справаздачным годзе да друку працы П. Бузука „Спроба лінгвістычнае географіі Беларусі“ і „Да характарыстыкі цэнтральна-беларускіх дыялектаў. Гутаркі Асіпавіцкага і суседніх раёнаў“.

*Камісія для выданьня твораў беларускіх пісьменьнікаў.*

Камісія для выданьня твораў беларускіх пісьменьнікаў была заснавана 15-га сакавіка 1925 году.

У 1926/27 акадэмічным годзе ў склад Камісіі ўходзілі наступныя асобы: проф. І. І Замоцін—старшыня Камісіі, В. Мачульскі—да 1-га мая 1926 году асьпірант і з 1 мая—сакратар Камісіі і Я. Плашчынскі—сакратар Камісіі да 1-га мая 1927 г.

Як і ў першай палове акадэм. году навуковая праца Камісіі праводзілася галоўным чынам у галіне падрыхтоўкі да акадэмічнага выданьня твораў беларускіх пісьменьнікаў.

I том твораў Багдановіча быў здадзены ў друк у 1925/26 акадэм. годзе, але яго прышлося папаўняць новымі матар'яламі ўжо на працягу 1926/27 опэрацыйнага году, бо былі набыты новыя вершы і нават цэльныя нізкі вершаў; новыя творы былі навукова апрацаваны паводле мэтоду, які ўстанавіўся ў Камісіі, і здадзены ў друк. Да гэтых дадатковых матар'ялаў

I т. былі ўкладзены ўвагі, а разам з тым прышлося значна папоўніць крытычны апарат і да ўсяго I тому.

На працягу ўсяго 26/27 опэрац. году праводзілася зьбіраньне рукапісных і друкаваных матар'ялаў да II т. твораў Багдановіча, у які ўвайшлі ўсе прозаічныя творы поэты, апроч 12 апавяданьняў, што выдрукаваны ў I томе. Усе здабытыя матар'ялы былі скоп'яваны, вывучаны і апрацаваны; такім чынам II том у першапачатковым выглядзе быў падрыхтаваны да друку ў 1926/27 акад. годзе.

Камісія вяла працу над зьбіраньнем і апрацоўкаю твораў А. Гаруна. У 1926/27 годзе Літаратурнай Камісіі быў пераданы Я. Лёсікам вялікі архіў А. Гаруна, вывучэньню і распрацоўцы якога прышлося ўдзяліць шмат часу. Была праверана бібліографія друкаваных твораў А. Гаруна, а таксама сабрана шмат твораў поэты з друку.

Камісіяй праводзілася зьбіраньне і першапачатная апрацоўка да друку твораў Цёткі.

На працягу акадэмічнага году Камісіяй вялося зьбіраньне аўтографаў Ядвігіна Ш., В. Дуніна-Марцінкевіча, Бядулі і інш.

Апрача навуковае працы падрыхтоўкі твораў беларускіх пісьменьнікаў да акадэмічнага выданьня, Старшынёю Камісіі проф. Замоцiным праводзілася дасьледчая праца ў галіне вывучэньня творчасьці беларускіх пісьменьнікаў Я. Купалы, Я. Коласа.

У 1926/27 акадэмічным годзе былі выдрукаваны наступныя працы:

1. „Творы М. Багановіча" том I. Акадэмічная бібліотэка беларускіх пісьменьнікаў. Кніга першая.

2. Працы проф. І. І. Замоціна:

„Літаратурная спадчына М. Багдановіча". У час. „Полымя" 1927 г.

„Крытычна-біографічны нарыс М. Багдановіча". „Узвышша". №№ 2, 3, 5.

Поэма Коласа „Сымон-Музыка", як аўтахарактарыстыка".

„Аб Сымоне-Музыку Я. Коласа". „Полымя", і іншыя артыкулы.

„Драмы Я. Купалы". Узвышша № 1.

---

## Прыродазнаўчая Сэкцыя і Камісія для вывучэньня прыродных вытворчых сіл БССР.

Вывучэньне прыроды Беларусі і наагул уся дзейнасьць Інстытуту Беларускае Культуры ў галіне прыродазнаўчых навук зьдзяйсьняліся з аднаго боку Прыродазнаўчай Сэкцыяй Інсты-

туту, з другога—Камісіяй для вывучэньня прыродных вытворчых сіл БССР. Прыродазнаўчая Сэкцыя мела сваёй мэтай аб'яднаньне ўсяе навуковае працы, якая вялася ў Беларусі ў галінах прыродазнаўчых навук паасобнымі навуковымі працаўнікамі, якія дабрахвотна ўходзілі ў склад яе сяброў. Як і ўсе сэкцыі Інбелкульту, яна да пэўнае меры мела характар навуковага таварыства з неабмежанай колькасьцю ўдзельнікаў. Камісія для вывучэньня прыродных вытворчых сіл зьдзяйсьняла плянавае вывучэньне Беларусі ў тых кірунках, якія маюць першачарговае значэньне для народнае гаспадаркі Беларусі. Запрашаючы для гэтай мэты шэраг выдатнейшых дасьледчыкаў, арганізуючы навуковыя экспэдыцыі і распрацоўку атрыманых матар'ялаў коштам спэцыяльна для гэтае мэты адпушчаных сродкаў.

*Прыродазнаўчая Сэкцыя* з'арганізавалася 7 сакавіка 1924 г. пад назвай Прыродазнаўча-Географічнай, але з часу рэарганізацыі Інбелкульту ў 1925 г. прыняла сваю апошнюю назву. Спачатку Сэкцыя падзялялася на 6 спэцыяльных падсэкцый: геолёга-глебазнаўчую, ботанічную, заолёгічную, географічную, матэматычную і хэмічную. Аднак гэтыя дробныя адзінкі, ня меўшыя да таго-ж нават мінімальна неабходных сродкаў і мажлівасьцяй працы, існавалі толькі адзін год, і з пачатку 1926-27 г. былі рэарганізаваны ў дзьве падсэкцыі: 1) неорганічнае прыроды і 2) органічнае прыроды. Апроч таго з Сэкцыі выдзелілася самастойная Географічная Камісія.

У склад Прэзыдыуму Прыродазнаўчае Сэкціі ўходзілі— Старшыня Сэкцыі—Яз. Каранеўскі, кіраўнікі падсэкцый—неорганічнае прыроды М. Блюдухо і органічнае прыроды М. Азбукін, навуковы сакратар—В. Вяршук. Лік членаў Сэкцыі пасьля яе рэорганізацыі быў грунтоўна перагледжаны і ў ім пакінуты толькі актыўныя ўдзельнікі працы Сэкцыі, колькасьцю каля 40 чал.

Прэзыдыум Сэкцыі вёў пераважна організацыйную працу Сэкцыі. Перад ім стаяла задача організацыі шэрагу пастаяннага тыпу навуковых устаноў з неабходным для навуковай працы ў галінах дакладных навук абсталяваньнем. Выконуючы ў меру сваіх вельмі абмежаных фінансавых магчымасьцяй гэтыя задачы, Прэзыдыум Сэкцыі організаваў Хэмічную Лябораторыю ІБК і Музэй Прыроды.

Патрэбнасьць ва ўласнай *Хэмічнай Лябораторыі* адчувалася ўжо здаўна і пытаньне аб яе адчыненьні падымалася ня раз. Прэзыдыум Сэкцыі, ня гледзячы на няхват сродкаў, энэргічна дабіваўся адчыненьня Лябораторыі, выпісаў з-за меж неабходнае абсталяваньне і рэактывы і ў 1926-27 г. ўрэшце змог адчыніць аналітычнае аддзяленьне Лябораторыі ў адведзеных для гэтай мэты ў будынку Інстытуту двух невялікіх пакоях. Для працы ў Лябораторыі быў вызначаны штат у $1^1/_2$ адзінкі—

загадчыка і асыстэнта, якімі і вялася праца пераважна аналізу карысных выкапняў, здабытых геолёгічнымі экспэдыцыямі Інбелкульту.

Бязумоўна, значным дасягненьнем зьяўляецца організацыя ў Менску *Музэю Прыроды* Інбелкульту—установы, адсутнасьць якой вельмі моцна адчувалася ў сталіцы Беларусі. Хаця думка аб утварэньні Музэю зьявілася раней, але ў мінулым толькі годзе Сэкцыя атрымала патрэбнае памяшканьне ў будынку Дзяржаўнага Музэю. Аж да часу вызначэньня штатнага загадчыка Музэю (на пасаду гэтую з студзеня 1927 г. запрошаны проф. А. Фядзюшын) Прэзыдыум Сэкцыі непасрэдна кіраваў організацыйнай працай. К канцу 1926-27 г. ў выніку напружанай працы Сэкцыі Музэй меў адрамантаванае памяшканьне і неабходнае абсталяваньне. Пэрсоналам Музэю былі падрыхтаваны для выстаўленьня ў Музэі пераважна орнітолёгічныя колекцыі, сабраныя экспэдыцыямі Інбелкульту за папярэднія годы і ўвесь час значна дапаўняныя.

Памеры зоолёгічных колекцый Музэю рабілі немэтазгодным адкрыцьцё ў атрыманым невялікім памяшканьні апроч зоолёгічнага іншых аддзелаў, якія меліся ўходзіць у склад Музэю Прыроды, як ботанічны, геолёгічны і глебавы і затым у першую чаргу быў к дзесяцігодзьдзю Кастрычнікавае рэволюцыі адкрыты *Зоолёгічны Музэй* Інбелкульту. Ботанічныя колекцыі Музэю, якія складаліся галоўным чынам з гэрбарыя беларускае флёры, былі выдзелены і пераданы новаорганізаванай Катэдры Ботанікі, а з багатых колекцый карысных выкапняў, сабраных геолёгічнымі экспэдыцыямі, організуецца асобны Геолёгічны Музэй пры адпаведнай Катэдры Інбелкульту.

Пад навуковым кіраўніцтвам Сэкцыі знаходзілася яшчэ адна стацыянарнага тыпу дасьледчая ўстанова—*Вяліка-Летчанскі ботанічны акліматызацыйны сад* у В. Летцах, каля м. Віцебску. Багатыя сыстэматычныя і эколёгічныя колекцыі гэтага саду, сабраныя даўней тут ботанікам У. Адамавым, за часы вайны пакінутыя без належнага дагляду, былі моцна запушчаны і папсаваны, а сама гаспадарка саду, яго будынкі і інвэнтар прыведзены ў стан руіны. Атрымаўшы ў такім відзе гэтую ўстанову ў 1926 годзе Інстытут Беларускае Культуры за нязначныя сродкі, якімі ён шафаваў, імкнуўся аднавіць гаспадарку саду, зрабіць неабходнейшыя рамонты, якія-б дазволілі распачаць навуковую працу ў садзе. Улетку 1927 г. з мэтай організацыі навуковай працы саду туды былі накіраваны спэцыялісты-ботанікі і назначаны пастаянны штатны навуковы супрацоўнік, якім рыхтаваліся матар'ялы для складаньня пляну далейшага разьвіцьця працы саду.

Пераважная большасьць сяброў Прыродазнаўчае Сэкцыі вяла сваю навуковую працу, карыстаючыся неабходным абсталя-

ваньнем іншых установ, з якімі яны так ці іначай былі зьвязаны (Унівэрсытэт, С.-Г. Акадэмія і інш.). Сувязь іх з Сэкцыяй выяўлялася пераважна ўдзелам у сходах Сэкцыі, зачытваньнем і абгаварэньнем навуковых дакладаў, а таксама ўдзелам у камісіях. Шэраг заслуханых дакладаў Сэкцыя ўхваліла надрукаваць.

Між іншым трэба адзначаць, што пад кіраўніцтвам члена Сэкцыі А. Фядзюшына праведзены былі дзьве *зоолёгічныя экскурсіі* ў паўднёвую і ўсходнюю Беларусь для вывучэньня орнітофаўны. Член Сэкцыі В. Вяршук распрацаваў анкету *аб прыродных фарбах* Беларусі, па якой зьбіраецца матар'ял праз краязнаўчыя організацыі і пры дапамозе студэнцтва.

Паміж прац Сэкцыі асабліва павінна быць адзначана праца *тэрмінолёгічная.* Для правядзеньня яе былі ўтвораны спэцыяльныя Камісіі: а) матэматычная, б) фізычна-мэтэоролёгічная, в) хэмічная, г) геолёгічная, д) ботанічная, е) зоолёгічная. Камісіі гэтыя, у склад якіх былі прыцягнуты віднейшыя спэцыялісты Беларусі, шырака разгарнулі сваю працу, у выніках якой к канцу году ўжо былі канчаткова апрацаваны і здадзены ў друк дзьве гатовыя тэрмінолёгіі—па матэматычных навуках (3.500 тэрмінаў) і па хэміі (2.520 тэрмінаў). Матар'ялы іншых Камісій яшчэ знаходзяцца ў апрацоўцы.

*Камісія для вывучэньня прыродных вытворчых сіл Беларусі* была організавана пры Інстытуце ў пачатку 1925 г., прычым ёй былі перададзены Дзяржплянам БССР усе крэдыты, вызначаныя на гэтую мэту па яго каштарысе. У 1926-27 г. Камісія ўжо існавала выключна на падставе каштарысу Інбелкульту. Склад яе быў наступны: старшыня—М. Блюдухо, нам. старшыні—П. Трамповіч, нав. сакратар—Д. Хржаноўскі, члены прэзыдыуму—М. Азбукін, А. Смоліч, І. Пятровіч і І. Краскоўскі (ад Дзяржпляну), Рыўкін (ад ВСНГ). Апроч таго ў склад Камісіі ўходзілі тыя навуковыя працаўнікі, якія з даручэньня Камісіі кіравалі паасобнымі досьледамі.

У мінулым годзе Камісіяй вяліся наступныя досьледы: 1) геолёгічныя, 2) геоботанічныя, 3) глебазнаўчыя, 4) геомагнэсавыя, 5) мінэральных угнаеньняў, 6) гідраэнэргетычныя, 7) для вывучэньні карысных тэхнічных расьлін і 8) для вывучэньні курортных мясцовасьцяй.

*А. Геолёгічныя досьледы.*

Улетку 1926 году працавалі тры партыі пад кіраўніцтвам профэсароў: М. Т. Блюдухо, Ф. В. Люнгерсгаўзэна і Б. К. Тэрлецкага.

Партыя М. Т. Блюдухо правяла досьледы больш дэталёвыя ў Калінінщчыне, з маршрутамі ў Аршанскай і Магілеўскай акругах.

Партыя Ф. В. Люнгерсгаўзэна працавала маршрутамі ў Віцебшчыне. Пройдзены паўднёвая і сярэдняя часткі Віцебскае акругі.

Партыя Б. К. Тэрлецкага працавала ў Меншчыне, дзе скончаны суцэльныя геолёгічныя досьледы ў маштабе 10 вёрст у 1 цалі і пачаты рэкогносцыровачныя вышуканьні ў Бабруйскай акрузе ў тым-жа маштабе.

Зімою вялася распрацоўка атрыманых матар'ялаў. Улетку 1927 году досьледы праводзіліся далей у Магілеўскай і Калінінскай акругах. Спэцыяльная ўвага была зьвернута на раёны, у якіх будуюцца чыгункі і шосы (Асіпавічы—Рослаў, Ворша—Лепель, Менск—Лагойск і інш.), дзе ўзяты ўзоры зямных парод.

Геолёгічныя досьледы далі наступныя вынікі. Дасьледваны акругі—Менская, Бабруйская, Калінінская, Магілеўская і палова Віцебскай. Па Менскай акрузе складзена папярэдняя карта дзесяцівёрснага маштабу. Карысныя выкапні (фосфарыты, крйэды, вапнякі, буры і чырвоны жалязьняк, марглі, пяскі, буры вугаль і інш.) знойдзены ў 286 пунктах БССР (бяз Гомельшчыны).

*Б. Геоботанічныя досьледы.*

Улетку 1926 г. досьледы праводзіліся ў акругах—Віцебскай, Калінінскай, Менскай і Полацкай, а зімою вялася апрацоўка атрыманых матар'ялаў. Улетку 1927 г. закончана геоботанічнае дасьледваньне рэшты акруг (Гомельская, Рэчыцкая, Аршанская). Як вынік гэтай працы, складаюцца геоботанічныя карты дзесяцівёрснага маштабу БССР, зроблены азначэньні 1550 экзэмпляраў расьлін і прадстаўлены зельнік з 928 расьлін.

Ужо складзена флёрыстычная карта Беларусі, яе расьлінных зон. Закончана апрацоўкай геоботанічная карта Віцебшчыны, Магілеўшчыны, Калініншчыны, Мазыршчыны, Барысаўшчыны і Бабруйшчыны. Надрукавана тым часам карта Мазырскае акругі.

*В. Геомагнэсавыя досьледы.*

Праца праводзілася ў Менскай акрузе, дзе зазьнята ў плянавым парадку 8 пунктаў, з іх адзін апорны (Менск—Кальварыя). Прыблізна азначаецца раён аномаліі паблізу м. Заслаўя, калі папраўкі на варыяцыі ня зьнізяць істотна вынікаў, якія ёсьць зараз.

*Г. Глебазнаўчыя досьледы.*

Глебазнаўчыя досьледы пад кіраўніцтвам проф. Я. Афанасьева праводзіліся з мэтай складаньня карты трохвёрснага маштабу ў 1926 г. у Барысаўскай акрузе і ўсходняй палове Менскай акругі, а ў 1927 г.—у Мазырскай акрузе. Апрача гэтага звыш програмы пры дапамозе Калінінскага Выканаўчага Камітэту праведзена была рэкогносцыроўка тэрыторыі Калінінскае акругі. Сабраны матар'ял часткаю апрацаваны аналітычна і складзены папярэднія трохвёрсныя глебавыя карты акруг Аршанскай, Менскай і Барысаўскай.

*Д. Гідроэнэргетычныя* досьледы вяліся пад кіраўніцтвам інж. Хржаноўскага. Праведзена камэральная праца для выяўленьня тых матар'ялаў, якія патрэбны ў мэтах далейшага выву-

чэньня энергетыкі рэк Беларусі. Апрацаваны літаратурны матар'ял, які датычыць пытаньня, складзены оро- і гідрографічныя нарысы Беларусі, праведзена спроба раёнаваньня на гідроэнэргетычныя раёны (лікам 5). Таксама зроблена спроба выяўленьня энэргетыкі 188 рэк па гіпсомэтрычных картах і гідромэтрычных даных, якія былі. знойдзены ў літаратуры. Затым скдадзены кароткі нарыс аб выкарыстаньні сілы ветра. Асноўны нарыс аб гідроэнэргіі складзены на 70 аркушох, апрача гэтага ёсьць дадаткі аб моцы ветра, ведамасьці, табліцы і інш. дадаткі.

Затым апрацаваны каталёг рэк і вазёр Беларусі на падставе чарнавых матар'ялаў, атрыманых ад апрацоўкі трохвёрснае карты. Усяго ў каталёгу зьмешчана рэк 3.557 (агульная даўжыня 29.000 клм.) і вазёр 2.088.

Складзены карты: у 10-вёрсн. машт. энэргетыкі рэк аснаўных вадазбораў Беларусі, паасобная карта вадазбораў рэк і гідроэнэргетычных раёнаў у 20-вёрсн. маштабе; апрача гэтага зроблены рысунак плавуковай гідростанцыі.

*Е. Досьледы па аграрудах.*

Агрономічнае вывучэньне беларускіх фосфарытаў праводзілася проф. Скандраковым сіламі катэдры агульнага ральніцтва Беларускае Дзяржаўнае Акадэміі Сельскае Гаспадаркі з выкарыстаньнем мэтодаў: лябораторнага, вэгетацыйнага і палявога; таксама ў гэтым кірунку вялася праца і іншымі дасьледчыкамі.

Дасьледчыкі прыходзяць да вывадаў, што ўжываньне фосфарытаў БССР, вынайдзеных проф. М. Т. Блюдухо ў Калінінскай акрузе, будзе ў належных умовах, ня менш карысным, чым ужываньне Сешчынскіх фосфарытаў.

*Ж. Досьледы для вывучэньня карысных тэхнічных расьлін* праводзіліся ў напрамку вывучэньня магчымасьцяй шаўкоўніцтва. Адкрыты гадавальнік у г. Менску вясною 1926 г. на сродкі КПВСБ на плошчы 200 кв. мэтраў. 70 кв. м. заняты сеянцамі морвы (Morus alba), высаджанай у грунт у колькасьці прыблізна 4.000 шт. 15 кв. м. заняты засевам скарзанэры. Складзена інструкцыя аб культуры морвы і скарзанэры, якая разам з насеньнем і распаўсюджваецца сярод насельніцтва, школ і г. д.

*З. Дасьледваньне курортных мясцовасьцяй* праводзілася ўлетку 1927 г. у вазёрнай часьці БССР (акругі Полацкая і Віцебская). Д-р Трамповіч зрабіў маршрутны аб'езд і апісаньне шэрагу вазёр і мінэральных крыніц і ўзяў пробы вады, якія паступілі ў аналіз. Улетку 1927 г. праводзіліся досьледы *плянктону* беларускіх азёр, прычым узята 378 проб. плянктону вазёр і рэк як Паўночнай Беларусі, так і Палесься.

Сэсія КПВСБ праведзена была 4-7 красавіка 1927 г. Яна заслухала справаздачы ўсіх экспэдыцый за год і абгаварыла пэрспэктывы далейшае працы.

У далейшым КПВСБ згодна з умовамі БССР мае працаваць у такіх кірунках: 1) нетры і іх выкарыстаньне, 2) вада, 3) глеба, 4) прыкладная геофізыка і паветра, 5) прыкладная батаніка і лес, 6) прыкладная зоолёгія—рыбы, паляўніцтва, 7) чалавек (экономіка, антрополёгія мэдыцына і санітарыя), 8) географія і картографія, 9) агрономія і зоотэхніка.

Для замацаваньня работы ў пералічаных галінах навуковага дасьледваньня неабходна ўтварыць у складзе Інбелкульту шэраг стацыянарных установаў,—спэцыяльных дасьледчых інстытутаў, ляборатoрый, навуковых габінэтаў, дасьледчых станцый і г. д. Далейшае разьвіцьцё і якаснае паляпшэньне работы ў галінах дакладных навук, з прыцягненьнем усіх навейшых і найбольш дасканалых навуковых мэтодаў, магчыма будзе толькі пры існаваньні гэтых пастаянна чынных, з пастаянным штатным складам навуковых працаўнікоў, установах, якія павінны замяніць сабою часовыя дасьледчыя партыі, каторымі дагэтуль быў змушаны карыстацца Інстытут у справе вывучэньня прыродных вытворчых сіл Беларусі.

## Сельска-Гаспадарчая Сэкцыя.

Сельска-Гаспадарчая Сэкцыя ІБК распачала сваю працу яшчэ ў сьнежні месяцы 1923 г. і спачатку ставіла сабе мэтаю апраўцоўку беларускай навуковай тэрмінолёгіі сельскай і лясной гаспадаркі, вывучэньне экономікі і тэхнікі сельскай гаспадаркі і іншых пытаньняў у гэтай галіне, паводле асобнай програмы, складзенай членам сэкцыі проф. *С. В. Скандраковым*. Гэта быў першы этап разьвітку працы Агросэкцыі, як яна тады называлася.

З перабудовай і пашырэньнем працы Інбелкульту, якое адбылося ў студзені-лютым 1925 г., Агросэкцыя зьмяніла сваю назву на Сельска-Гаспадарчую Сэкцыю і значна пашырыла сваю працу, захапляючы ўсе галіны сельскае гаспадаркі. На чале С.-Г. Сэкцыі стаў прэзыдыум, які складаўся: з старшыні *З. Ф. Прышчэпава*, нам. старшыні *А. А. Смоліча* і сакратара *Ч. І. Родзевіча*, потым *Я. С. Грабоўскага*, а з 15 лютага 1927 г. *П. С. Труса*.

Пасьля рэорганізацыі Агросэкцыі быў апрацаваны і зацьверджаны новы плян працы Сэкцыі, паводле якога Сэкцыя працавала і да апошняга часу. За аснову была прынята програма Агросэкцыі і плян зводзіўся к наступнаму: 1) Апрацоўка навуковай беларускай сельска-гаспадарчай тэрмінолёгіі. 2) Апрацоўка с.-г. літаратуры ў беларускай мове і адпаведнай умовам Беларусі. 3) Вывучэньне гісторыі разьвіцьця сельскай гаспадаркі і сельска-гаспадарчай прамысловасьці ў Беларусі. 4) Вывучэньне сельска-гаспадарчага быту вёскі. 5) Вывучэньне зямельнага права і зямельных адносін у Беларусі да рэволюцыі і цяпер, у сувязі з

зямельнай палітыкай. 6) Вывучэньне эканомікі беларускай сельскай гаспадаркі. 7) Вывучэньне пытаньняў коопэраваньня сельскае гаспадаркі і сельска-гаспадарчай прамысловасьці на Беларусі. 8) Вывучэньне с.-г. дасьледчае справы ў Беларусі. 9) Распрацоўка найбольш пільных пытаньняў тэхнікі беларускай сельскай гаспадаркі па літаратурных крыніцах, на падставе сабраных дасьледчымі ўстановамі матар'ялаў і пры помачы ўласных дасьледваньняў самой сэкцыі. 10) Вывучэньне агропрапаганды. 11) Вывучэньне вясковых хатніх вырабаў.

Для выкананьня намечанай програмы Сэкцыя выдзеліла падсэкцыі: лясную, мэліорацыйную і падсэкцыю для вывучэньня саматужнай с.-г. прамысловасьці. З гэтых падсэкцый толькі мэліорацыйная не разгарнула належнай працы. Таксама былі выдзелены камісіі: тэрмінолёгічная, для вывучэньня тэхнікі сялянскае гаспадаркі, і камісія популярнай с.-г. літаратуры. На працягу апошняга году жыцьцё выклікала выдзяленьне яшчэ камісій: па дробным сельска-даспадарчым раёнаваньні і па досьледу эфэкту зямляўпарадкаваньня і форм зямлякарыстаньня, якія шырака павялі сваю працу.

З гэтага часу Сэкцыя паступова, сыстэматычна, ня гледзячы на няточнасьць сродкаў, і амаль поўную адсутнасьць штату, выконуе сваю програму. Цяжка аддзяліць працу аднаго году ад другога, бо тое ці іншае навуковае прадпрыемства раскладаецца на некалькі гадоў. За гэтым праца за справаздачны год зьяўляецца працягам працы ранейшых гадоў, можа толькі больш паглыбленай і пашыранай.

У справаздачным годзе ў Сэкцыі налічвалася 62 чалавекі, з якіх 39 чал. жывуць у Менску, 18 чал.—у Горках (навуковыя працаўнікі С.-Г. Акадэміі) і 5 чал. у іншых мясцох БССР. Апроч таго, працуе ў падсэкцыях і камісіях 27 чал., якія ня лічацца членамі Сэкцыі.

У Сэкцыі лічылася 7 чал. правадзейных членаў ІБК, 11 чал. членаў-супрацоўнікаў і 15 чал. членаў-корэспондэнтаў, а астатнія 29 чал. членамі ІБК не зьяўляліся.

Сэкцыя аб'яднае навуковых працаўнікоў па сельскай гаспадарцы, выдатнейшых грамадзянскіх агрономаў, працаўнікоў дасьледчых станцый і ўстаноў, спэцыялістых НКЗБ і інш. працаўнікоў па сельскай гаспадарцы.

У мінулым годзе адбылося 11 паседжаньняў С.-Г. Сэкцыі ІБК, на якіх зроблены наступныя важнейшыя навуковыя даклады: *Ярашчук* „Сувязь сельскай гаспадаркі з рынкам“, *Макарэўскі*—„Мэтэоролёгічныя ўмовы зімы і вясны 1925/26 г. і ўплыў іх на становішча засеваў Беларусі“, *Журык*—„Проект досьледу жывёлагадоўлі Беларусі“, *Бойка*—„Аб выніках экспэдыцыі НКЗБ па дасьледваньні ўмоў жыцьця перасяленцаў з БССР у Сібіры і на Далёкім Усходзе“, *Дыяканенка*—„Вынікі дасьледваньня

коняй на Случчыне, Магілеўшчыне і Аршаншчыне“, *Грабоўскі*—„Аб с.-г. вучэбных фэрмах на Беларусі“, *Тупяневіч*—„Два гады працы часопісу „Плуг“, *Такмачоў*—„Аб мерапрыемствах для палепшаньня сялянскай жывёлагадоўлі ў Беларусі“, *Дакукін*—„Аб зьезьдзе пры Навуковым Інстытуце Ўгнаеньняў у Маскве ў пачатку 1927 г.“, *Дабратворскі*—„Залежнасьць насеннай продукцыі канюшыны ад чмялёў“ і *Шатэрнік*—„Ільняныя раёны Беларусі“.

На кожным паседжаньні прысутнічала ад 58-78⁰/₀ (у сярэднім 65⁰/₀) усіх членаў сэкцыі, якія жывуць у Менску.

За гэты-ж час адбылося 9 паседжаньняў прэзыдыуму С.-Г. Сэкцыі, на якіх разгледжана 23 пытаньні.

*Лясная падсэкцыя* пад старшынством вучонага лесавода *І. Бялюнаса* пры сакратары *П. Санько* налічала 20 чалавек лесаводаў.

Адбылося 7 паседжаньняў пленуму Падсэкцыі, на якіх разглядаліся пытаньні організацыйныя, пытаньні лясной тэрмінолёгіі, аб выданьні літаратуры па лясной гаспадарцы і інш.

Заслуханы даклады: *Кавалёнка*—„Любуская пушча з экономічнага і гістарычнага боку“ і *Міхневіч*—„Кароткі нарыс аб лясох Беларусі“.

На паседжаньнях прысутнічала ў сярэднім 70⁰/₀ усіх членаў Падсэкцыі.

*Падсэкцыя для вывучэньня хатніх рамёстваў* налічае 12 членаў пад старшынством *А. Трахімава*, пры сакратары *Г. Раку*.

Адбылося 12 паседжаньняў, на якіх прысутнічала ад 60—80⁰/₀ агульнага ліку членаў. За гэты час зроблена Падсэкцыяй наступнае: 1) Распрацована канчаткова анкета для вывучэньня хатніх рамёстваў, 2) Заслуханы даклады: а) Ткацтва Бабруйскай акругі і б) Ганчарства паўднёва-ўсходняй Беларусі, 3) Распрацавана програма для вывучэньня вясковых промыслаў, 4) Наладжана дзьве экспэдыцыі для вывучэньня хатніх рамёстваў,—адна ў Бабруйскую акругу (Г. Рак), а другая ў паўднёва-ўсходнюю Беларусь (Жураўлёў), 5) Зроблены выезд для агляду Бабруйскай акруговай кустарнай выстаўкі, 6) Разаслана па ўсіх сельсаветах Беларусі і краязнаўчых організацыях 1.500 анкет, распрацованы і разасланы да іх інструкцыі і 7) Зроблены дзьве інформацыі аб працы Падсэкцыі—адна на 2-м Усебеларускім зьезьдзе краязнаучых організацый, а другая на першым пленуме краязнаўчых організацый Менскае акругі. Як вынік працы Падсэкцыі—падрыхтаваны для друку альбом у 100 зарысовак розных узораў ткацтва; рыхтуецца для друку нарыс „Ткацтва Бабруйскае акругі“ і „Ганчарства паўднёва-ўсходняе Беларусі“.

Сабраны значны лік анкет, якія даюць мажлівасьць выдаць схэматычную карту пашырэньня рамёстваў на Беларусі і нарыс

„Стан хатніх вырабаў у Беларусі“. Экспэдыцыямі набыта для музэю 60 экспонатаў па ткацтву і 45 па ганчарству.

*Камісія популярнае с.-г. літаратуры* пад кіраўніцтвам С. Тупяневіча арганізавала конкурс на лепшую популярную асьветна-гаспадарчую брошуру і прарэдагавала да 20 друкаваных аркашоў рукапісаў Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва для сялянскай бібліотэкі.

Вынікам працы *Тэрмінолёгічных камісій* зьяўляецца выданьне лясной тэрмінолёгіі (1.657 тэрмінаў) і матар'ялаў да кароткага слоўніка сельска-гаспадарчай тэрмінолёгіі (1.037 тэрмінаў).

*Камісія для вывучэньня тэхнікі сялянскага ральніцтва* організавана з мэтай вывучэньня дасягненьняў беларускага сялянскага ральніцтва. Значная частка распрацаваных старшынёй Камісіі проф. Скандраковым анкет ужо зьвернута.

Праца *Камісіі дробнага раёнаваньня БССР* пад старшынством А. Смоліча яшчэ ідзе. Апрацованы паваласны матар'ял сьпісу 1916-17 гадоў па ўсёй БССР, на падставе чаго ўложаны карты географіі паасобных культур і паказчыкаў інтэнсыўнасьці сельскае гаспадаркі. Прыгатавана да друку дазімэтрычная карта БССР, уложная А. Смолічам. Зроблены проект дробнага с.-г. раёнаваньня для ўлажэньня пляну дасьледчай справы; плян гэты дaложаны і прыняты ў Пленуме Навуковага Бюро па с.-г. дасьледчай справе.

*Камісія для досьледу эфэкту зямляўпарадкаваньня і форм зямлякарыстаньня* пад старшынством І. Кісьлякова распрацавала програму працы трох экспэдыцый, якія павінны запаўняць толькі блянкі: 1) бюджэтныя, 2) монографіі паселішчаў, 3) падворныя карткі і 4) дзьве паасобныя анкеты. Зроблена выбарачная праца на мясцох для выяўленьня об'ектаў абсьледваньня. Набраны штат для працы на мясцох трох экспэдыцый, якія з 1 чэрвеня выехалі на месцы і выканалі на працягу лета даручаную ім працу. Праца Камісіі дробнага с.-г. раёнаваньня і дасьледаваньня форм зямлякарыстаньня фінансавалася Наркамземам.

Члены Сельска-Гаспадарчай Сэкцыі ў Горках згуртованы пры Навуковым Таварыстве для вывучэньня Беларусі.

*Выданьні С.-Г. Сэкцыі за справаздачны год*:

1) *С. Ждановіч і А. Ярашчук.* Характарыстыка сельскай гаспадаркі Беларусі на падставе чыгуначных перавозак.

2) Лясная тэрмінолёгія.

3) Сельска-гаспадарчая тэрмінолёгія (здана ў друк).

4) *Кіпрыянец.* Грамадзкія севазвароты ў вёсцы.

5) *А. Смоліч.* Організацыя сялянскай гаспадаркі ў раёнах цэнтральнай Беларусі.

Трэба адзначыць, што члены сэкцыі прымалі ўдзел сваімі артыкуламі ў часопісе „Плуг“ а таксама ў апрацоўцы іншых популярных выданьняў для сялян.

Асноўнай перашкодай у працы Сэкцыі праз усе гады яе існаваньня была адсутнасьць уласнае лябораторнае базы. Сэкцыя ўвесь час імкнулася ўтварыць паважную стацыянарную дасьледчую ўстанову па сельскай гаспадарцы, што ёй нарэшце і ўдалася. На падставе проекту Сельска-Гаспадарчай Сэкцыі, зложанага яшчэ ў канцы 1925 году, у мінулым годзе організаваны і з 26 студзеня 1927 году пачаў працаваць Беларускі Навукова-Дасьледчы Інстытут Сельскай і Лясной Гаспадаркі імя *Леніна*, які аб'яднаў усю сельска-гаспадарчую і лясную дасьледчую працу ў БССР і стварыў неабходныя ўмовы для стацыянарнай навуковай працы па тых галінах навукі, якімі займалася Сельска-Гаспадарчая Сэкцыя ІБК. Інстытут, аднак, перарос усе папярэднія спадзяваньні і стаўся самастойнай вышэйшай навукова-дасьледчай установай пры СНК БССР. У сувязі з гэтым з 1 кастрычніка 1927 году Сельска-Гаспадарчая Сэкцыя спыніла сваю дзейнасьць, перадаўшы яе працяг Навукова-Дасьледчаму Інстытуту.

## Географічная Камісія.

У склад Камісіі ўходзілі т. т. Азбукін, Грамыка, Смоліч, Аляксандраў, Касьпяровіч і Даўгяла. Пастаянную працу ў Камісіі вёў т. М. Азбукін, які адначасна лічыўся старшынёю Падсэкцыі жывой прыроды ў Прыродазнаўчай Сэкцыі ІБК.

Час утварэньня Камісіі—1926 г. Да гэтага году георафічная праца вялася, пачынаючы з 1924 году, Географічнай падсэкцыяй Прыродазнаўчае Сэкцыі, а яшчэ раней да рэформы ІБК—Сэкцыяй географіі і этнографіі. Вынікам прац папярэдніх гадоў было апрацаваньне географічнае тэрмінолёгіі, выданае Інбелкультам, апрацоўка шэрагу падручнікаў па географіі для Б. Д. Выдавецтва і апрацоўка некаторых навуковых тэм, як напр. „Тыпы беларускіх географічных краявідаў“ (Смоліч), „Запраўдныя месты БССР“ (Азбукін) і інш.

У 1926/27 годзе ўпяршыню быў прызначаны для працы па географіі няштатны працаўнік ІБК. Дзеля таго, аднак, што ён павінен быў дзяліць свой час паміж Географічнай Камісіяй і іншымі ўстановамі, асабліва-ж дзеля адсутнасьці опэрацыйных сродкаў, праца Камісіі мусіла абмежыцца параўнаўча вузкімі рамкамі. Асноўнае мерапрыемства Камісіі—апрацоўка географічнага слоўніка Беларусі на працягу ўсяго году знаходзілася ў стадыі організацыйнага абгавораньня. Аднак, па ініцыятыве Камісіі і пад яе наглядам на мясцох краязнаўчыя організацыі распачалі зьбіраньне матар'ялу для слоўніка; найбольш у гэтым напрамку праведзена працы па Мазырскай акрузе, дзякуючы дапамозе Мазырскага Акруговага Краязнаўчага Таварыства. Камісія зьбірала матар'ялы аб географічным пашырэньні некаторых зьяў матар'яльнай культуры Мазырскага Палесься (пашырэньне

азяродаў, тыповых будынкаў і г. д.). З мэтай выяўленьня асаблівасьцяй палескага краявіду былі выкарыстаны выезды членаў Камісіі ў Палесьсе, што дало даволі значныя фотографічныя колекцыі і апісовыя матар'ялы.

Членам Камісіі М. Азбукіным вялася работа зьбіраньня і апрацоўкі географічных матар'ялаў аб важнейшых паселішчах Беларусі для Географічнага Слоўніка. Некаторыя з такіх апісаньняў ужо надрукаваны (гл. м. Шацак у № 1(16) „Нашага Краю"). Таксама надрукавана ў „Нашым Краі" програма зьбіраньня матар'ялаў для географічнага слоўніка.

Географічная Камісія прымала актыўны ўдзел у картографічнай працы. Шляхам асаблівых анкет зьбіраліся матар'ялы аб беларускіх географічных назвах для выданьня топографічнай карты маштабу 5 клм. у 1 см. Камісія рэдагавала шэраг картографічных выданьняў на беларускай мове або датычныя Беларусі, як карты Эўропы фізычную і політычную, карту СССР, карту Эўропейскае часткі СССР, глёбус, карту новага адміністрацыйнага падзелу БССР.

Географічная Камісія ў цеснай сувязі з ЦБ Краязнаўства кіравала апрацоўкай і рэдагаваньнем матар'ялаў да краязнаўчага апісаньня Асіпавіцкага раёну, якое мае быць узорнай працай для краязнаўчых організацый Беларусі. Камісія зьбірала, апрацоўвала і рэдагавала матар'ялы па БССР для Вялікай Савецкай Энцыклёпэдыі.

Паасобныя сябры Камісіі за мінулы год правoдзілі шэраг навукова-дасьледчых і літаратурных географічных прац, з паміж якіх можна паказаць на Дэзімэтрычную карту БССР, географічныя нарысы БССР, географічныя артыкулы аб Заходняй Беларусі—у адпаведных зборніках, выдаваных у справаздачным годзе.

## Навуковае Бюро для с.-г. дасьледчай справы.

Навуковае Бюро для с.-г. дасьледчай справы існуе з ліпня месяца 1925 году. На чале яго знаходзіцца прэзыдыум у складзе 5 асоб—старшыні проф. С. В. Скандракова, 3-х членаў—проф. А. В. Ключарова, проф. М. В. Найдзенава і прадстаўніка ад раённых станцый і навуковага сэкратара—інспэктара дасьледчай справы пры НКЗ М. С. Савіцкага, але больш-менш сталых працоўнікоў, бяз сумесьніцтва ў 1926-27 г. Бюро ня мела.

Навуковае Бюро аб'яднае навуковую частку працы 5 раённых с.-г. дасьледчых станцый—Менскае, Горацкае, Віцебскае, Тураўскае і Палескае. 6 спэцыяльных дасьледчых установаў—Менскае Балотнае Станцыі, Менскае Станц. аховы расьлін, Менскае Машына-Спробнае, Магілеўскае—Лекавых расьлін, Забалоцкае Балотнае дасьледчае гаспадаркі і Мэтэоролёгічнага Бюро.

З гэтых установ—Менская С.-Г. Дасьледчая Станцыя, Менская Балотная Станцыя, Менская Станцыя Аховы Расьлін і Цэнтральная Лясная Дасьледчая Станцыя знаходзіліся ў веданьні Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту, а рэшта ў веданьні НКЗ.

Акром вышэйпамянёных установ у працах Пленуму Навуковага Бюро прымалі ўдзел Беларускае Аддзяленьне Інстытуту Прыкладной Батанікі, Новазыбкаўская, Энгельгардаўская і Радамысьльская Дасьледчыя Станцыі.

У 1926-27 г. Навуковым Бюро быў праведзены 18-25 студзеня 1927 г. адзін пашыраны пленум, на якім разглядаліся навуковыя і арганізацыйныя пытаньні дасьледчае справы. У сувязі з заслуханымі дакладамі: 1) профэсара Кайгародава—„Кліматычнае раёнаваньне БССР", 2) В. В. Адамава—„Расьліннасьць БССР", 3) проф. Афанасьева—„Глебы Беларусі", 4) А. А. Смоліча—„Раёнаваньне БССР", 5) проф. С. В. Скандракова—„Галоўныя прынцыпы арганізацыі дасьледчае справы на Беларусі" і 6) М. С. Савіцкага—„Сетка дасьледчых установ БССР"—Пленум цалкам зацьвердзіў існуючую сетку дасьледчых установ і адзначыў, што арганізаваны Навукова-Дасьледчы Інстытут не павінен утвараць аналёгічных новых установ, а ў першую чаргу выкарыстовываць ужо існуючыя станцыі.

Акром таго на гэтым-жа Пленуме абмяркоўваліся галоўныя прынцыпы насеньняводнай справы, якая ў умовах Беларусі толькі яшчэ пачынае разгортвацца.

На паседжаньні Прэзыдыуму Навуковага Бюро абмяркоўваліся ўставы дасьледчых установ і іншыя пытаньні, зьвязаныя з працай Станцый.

Навуковае Бюро праз сваіх прадстаўнікоў прымала ўдзел у нарадах па дасьледчай справе ў Заходняй вобласьці, па ўвязцы працы з Новазыбкаўскай Станцыяй, па арганізацыі Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту і перадачы яму дасьледчых станцый, па арганізацыі Інстытуту сялян-дасьледчыкаў і г. д.

Складаньне зводных плянаў працы дасьледчых установ і іх узгадненьне паміж сабою, а таксама дача заключэньняў па навуковых справаздачах дасьледчых установ было аднэй з паважных задач Навуковага Бюро. Навуковым Бюро прагледжаны навуковыя справаздачы з дасьледчых станцый, якія потым надрукаваны.

Навуковае Бюро выконвала таксама асобныя даручэньні НКЗ і Навукова-Дасьледчага Інстытуту па абсьледваньні дасьледчых станцый, удзелу ў рэвізіі навуковай часткі дасьледчай станцыі, па выбару месца пад паляводную дасьледчую станцыю Навукова-Дасьледчага Інстытуту і г. д.

З мэтай падагульваньня вынікаў дасьледчае працы зроблена зводка палявых досьледаў з угнаеньнямі па Меншчыне.

З організацыяй Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя У. І. Леніна Навуковае Бюро па с.-г. дасьледчай справе павінна было-б быць пераорганізавана і ўвязана з Навукова-Дасьледчым Інстытутам.

Навуковым Бюро могуць быць падрыхтаваны да друку наступныя працы: 1) Даклады і пастановы І-га Ўсебеларускага Зьезду дасьледчыкаў—5 арк., 2) Працы 3-х пленумаў Навуковага Бюро—2 арк. і 3) М. Савіцкі—„Зводка палявых досьледаў з угнаеньнямі па Меншчыне"—$2^1/_2$ арк.

Друкаваных прац Навуковае Бюро ня мае.

## Мэдычная Сэкцыя.

На працягу акадэмічнага году Мэдычныя Сэкцыя вяла працу згодна апрацованаму пляну ў трох кірунках: 1) у кірунку аб'яднаньня навуковых сіл г. Менску каля пытаньняў санітарнага вывучэньня Беларусі, 2) паглыбленьня і пашырэньня ўжо пачатых галін працы і 3) падрыхтоўкі і кваліфікацыі працаўнікоў Сэкцыі.

Сэкцыя складалася з 65 сяброў.

Актыўнасьць сяброў Сэкцыі выразілася працай у камісіях Сэкцыі і ўдзелам у агульных сходах Сэкцыі.

Камісіі пры Сэкцыі працавалі ў мінулым годзе наступныя: 1) гельмінтолёгічная, 2) вальлёвае хваробы, 3) скляромная і 4) санітарнага вывучэньня быту Беларусі.

Гельмінтолёгічная камісія паставіла сабе мэтай вывучэньне гельмінтофаўны Беларусі, ступень пашырэньня гэльмінцыязаў сярод насельніцтва, клінічныя назіраньні над глiснымі інвазіямі на Беларусі шляхам распрацоўкі сэкцыйнага матар'ялу па аўтопсіях Патолёга-Анатомічнага Інстытуту Б. Д. У.

Роўналежна з гэтым ішло вывучэньне гэльмінтофаўны жывёлы, маючай беспасярэдную стычнасьць з чалавекам.

У сучасны момант пачалося дасьледваньне менскае разьніцы для высьвятленьня заражанасьці ўбойнае жывёлы глістамі і заражанасьці працаўнікоў разьніцы тымі-ж відамі глістоў.

Вальлёвая камісія праводзіла працу ўчоту вальлёвых хворых у Менску, у Аршанскай і Віцебскай акругах з мэтамі высьвятленьня асяродкаў гэтае хваробы і прычын яе пашырэньня. У Менску дасьледваліся дзеці школ, выяўляліся маючыя павялічэньне шчытаватае залозы і на іх ставяцца пробы грамадзкае профіляктыкі.

Скляромная камісія заканчвала дасьледваньне Менскае акругі, укладала бібліографію і апрацоўвала матар'ялы да монографіі „Склярома на Беларусі".

Камісія для санітарнага вывучэньні быту Беларусі вяла працу для санітарнага вывучэньня гор. Менску і Асіпавіцкага раёну.

У Сэкцыі і ея камісіях у мінулым годзе заслуханы наступныя даклады:

Проф. Л е н ц.—Да антраполёгіі беларусаў.

Д-р Д і х ц я р.—Вынікі Усесаюзнаго зьезду санітарных дактароў у Адэсе.

Д-р Д в о р ж а ц.—Пашкоджаньні вачэй, быт і профэсія.

Д-р М а г і л е ў ч ы к.—Кватэрныя ўмовы беларускага сялянства.

Д-р Д в о р ж а ц.—Навуковы і грамадзкі твар Усесаюзнага Зьезду вочных дактароў у Маскве.

Д-р Ч э р в а к о ў.—Аб самагубствах на Беларусі.

С л у п с к і.—Самагубства на Беларусі ў мінулым і сучасн.

Д-р Г е л е р - Л е в і н т а в а.—Да характарыстыкі нованароджаных на Беларусі.

Д-р П р а т у с е в і ч.—Да профіляктыкі і лячэньня вальлёвае хваробы ў Менску.

Б і р ы л а.—Вынікі дасьледваньня вальля ў Менску.

А н д р э е ў.—Вынікі дасьледваньня вальля у Віцебскай акрузе.

Проф. Р у б а ш о ў.—Аб ролі ёду ў захварэньнях на вальлё.

Проф. Э л ь б э р т.—Да характарыстыкі сыраватак, выробляных у Беларускім Дзяржаўным Санітарна-Бактэрыолёгічным Інстытуце.

Проф. С а к а л о ў с к і.—Аб параненьнях галавы па матар'ялах 2-ой сав. больніцы ў Менску.

Д-р С ь м і р н о ў.—Антраполёгічная характарыстыка беларусаў прызыўнікаў Меншчыны.

Інж. К і р ы к.—Плян забудовы Менску.

Інж. Б р э с ь л е р.—Плян пабудовы каналізацыі ў Менску.

Д-р Т у ш к е в і ч.—Санітарнае становішча Менску.

Проф. Р у б а ш о ў.—Аб мэтодах высьвятленьня якасьці вальлёвае хваробы.

Д-р П р а т у с е в і ч.—Дасьледваньне вальлёвасьці сярод вучняў Менску.

Д-р С к л я р о ў. — Патолёга-анатомічнае дасьледваньне шчытаватае залозы.

Д-р Ч э р в а к о ў. — Аб вывучэньні гэльмінтофаўны Беларусі.

Д-р Ч э р в а к о ў.—Аб гэльмінтофаўне сабак Беларусі.

„ —Аб фаўне чужаедных чарвей хатніх мясаедных.

Д-р Г л о д - В я р ш у к.—Выпадак трыхінозу ў Менску.

„ —Выпадак аскарыднага паранэфрыту.

Д-р Левэнберг.—Выпадак шматкаморнага эхінакоку мазгоў у чалавека.

Д-р Бурцаў.—Cysticercus fasciolaris у печанёх белых мышэй.

Д-р Трамповіч.—Аб організацыі хірургічнае дапамогі на Беларусі.

Д-р Цьвікевіч І.—Доктар і краязнаўства.

(Апошнія два даклады ад імя сэкцыі на 2-м Усебеларускім З'езьдзе вучастковых дактароў).

У мінулым годзе ішла далейшая апрацоўка тэрмінолёгіі Nomina anatomika. Alboruthenica. Здадзены да друку 2-гі выпуск тэрмінолёгіі ў ліку 3.000 тэрмінаў і рыхтуецца 3-ці выпуск.

Перашкодамі ў працы былі: 1) брак сродкаў, 2) адсутнасьць лябораторыі і 3) брак спэцыяльнае літаратуры.

## Антраполёгічная Камісія.

Камісія складалася з Старшыні Камісіі А. Ленца, навуковага сакратара А. Сьмірнова і членаў: М. Барсукова, П. Трамповіча, І. Сербава, С. Лябёдкіна, С. Рубашова, В. Леонава, Д. Эйнгорн, Ф. Багарад, Г. Гольдблята, А. Каўцэвіча, Н. Макуевай і Е. Ржэвускага.

За справаздачны 1926-27 год сіламі Камісіі была выканана наступная дасьледчая праца: у кастрычніку 1926 году дасьледвана 750 прызыўнікаў, у лютым 27 чарапоў курганнага пэрыоду з колекцый БДМузэю, у чэрвені 1927 г. адбылася экспэдыцыя ў аколіцы „Князь Возера", якая дасьледвала 450 сялян.

Здадзены ў друк наступныя працы: „Матар'ялы да організацыі антропомэтрычных досьледаў беларусаў"—проф. Ленца. „Антраполёгічная характарыстыка беларусаў Менскае акругі (прызыўнікі 1904 г.)" д-р А. А. Сьмірноў; „Табліцы для вылічэньня чарапных і тварных індэксаў"—д-р Сьмірноў і д-р Багарад; „Мэтодыка ўмоўных рэфлексаў у чалавека"—проф. Ленц і д-р Сьмірноў.

Прыгатавана да друку: „Антраполёгічная характарыстыка беларусаў аколіцы „Князь Возера"—д-р Сьмірноў і д-р Багарад. Праца „Антраполёгічная характарыстыка беларусаў Менскага раёну" была даложана на паседжаньні Мэдычнае Сэкцыі ІБК; „Мэтодыка ўмоўн. рэфл. у чалавека"—на паседжаньні лекарскай сэкцыі м. Менску.

## Камісія санітарн. вывучэньня быту Беларусі.

1. Камісія заснавана 1 кастрычніка 1926 году.
2. Старшыня камісіі П. В. Трамповіч.

Сакратар З. К. Магілеўчык.

Сябры: Эльбэрт Б. Я. ад Белар. Сан. Бак. Інстытут.
Вяршук В. В. „ Прыродазнаўчае Сэкцыі ІБК.
Атраховіч ад ЦБК.

Клімаў ад інж. Кам. Гасп.
Кірык " " " "
Багамолаў " " Эльводу.
Сухавараў " НКЗему.
Дзіхцяр Саніт. доктар.
Шушкевіч " "
Фрэйдзін " "
Хржаноўскі дасьледчык па мэліор.

Апроч гэтых асоб з дакладамі выступаў інж. Брэсьлер ад Дзяржпляну.

3. Камісія правяла працу па 1) санітарнай крытыцы пляну каналізацыі г. Менску і прымала ўдзел у прёмцы асноўнага калектара на Нямізе, 2) разглядзела плян разбудовы г. Менску, 3) разглядала пытаньне сучаснага санітарнага стану г. Менску, 4) прымала ўдзел у санітарным вывучэньні Асіпавіцкага раёну.

4. Да друку падрыхтовываецца зборнік: „Менск—сталіца Беларусі". (Санітарныя і грамадзка-бытавыя нарысы).

## Бібліографічная Камісія.

Бібліографічная Камісія Інбелкульту пачала існаваць афіцыйна пасьля 21/IV 1925 году, але фактычна крыху раней: са сьнежня 1924, калі за кошт Дзяржпляну, а потым ІБК пры Дзяржаўнай Бібліотэцы пачаў складацца бібліографічны рэпэртуар.

Патрэбнасьць новага дзяржаўнага організму—БССР у інтэнсыўнай навуковай працы, патрэбнасьць ведаць мінулае і сучаснае, з другога боку нераспрацаванасьць бібліографічных даведак аб Беларусі, страшэнная іх раскіданасьць у працах агульна-расійскіх, польскіх і інш., адсутнасьць зборак бібліографічных матар'ялаў і шмат іншых прычын выклікала неабходнасьць у інстытуцыі, якая-б кіравала зборкай, распрацоўкай і выданьнем матар'ялаў для навуковых досьледаў і была-б разам з тым і ляґбараторыяй, дзе выпрацоўваюцца мэтоды бібліографіі і наогул разьвязваюцца пытаньні беларускай бібліографіі і кнігаведаньня.

*Склад Камісіі наступны:*

Прэзыдыум: Старшыня—*І. Сіманоўскі;* Член Камісіі—*Ю. Бібіла*; Сакратар—*Пракулевіч.*

Пленум Камісіі складаецца з прадстаўнікоў Сэкцый, Камісій, Аддзелаў. Уходзілі апрача прэзыдыуму яшчэ: 1) Аляксандраў (з Яўрэйскага Аддзелу), 2) Воўк-Левановіч, 3) Дружчыц, 4) Дубінскі, 5) Я. Дыла (пэрсональна), 6) Мачульскі, 7) І. Сербаў, 8) А. Смоліч, 9) П. Трамповіч, 10) А. Фядзюшын, 11) Хржчановіч, 12) Шыцькоўскі, 13) Шчакаціхін.

Апрача таго асабіста запрошаныя працавалі над пераглядам бібліографічных матар'ялаў: проф. Блюдухо, Гайдукоў, Скандракоў, Акад. Сьпіцын (Ленінград) і Шлюбскі.

Увага: Платных супрацаўнікоў Бібліографічнае Камісіі было ўсяго—1: Сакратар (1/4 частка стаўкі).

*Дзейнасьць Камісіі*:

1. Рэгістрацыя публікацый да беларусазнаўства.

а) Рэгіструюцца матар'ялы ва ўсіх галінах веды, як друкаваныя за старыя годы, так і сучасныя.

б) Ахапляецца ўся этнографічная тэрыторыя, і з асаблівай уважлівасьцю сочыцца за літаратурай, датычнай Заходняй Беларусі.

в) Стала пераглядаюцца ўсе часопісы, якія выходзяць на тэрыторыі Беларусі, каля 100 назоў часопісаў, выходзячых у Саюзе па-за межамі БССР за рэволюцыйны час (з 1918 г.) і асабліва за 1926 і 1927 гады. Таксама рэгулярна пераглядаецца periodica замежная, галоўным чынам польская (да 60 часопісаў), у якія можа, эвэнтуальна, знайсьціся матар'ялы па беларусазнаўству.

г) Перагледжваюцца бібліографічныя крыніцы і часопісы за мінулыя гады. Усяго Бібліографічнай Камісіяй аплачана за 1926/27 год *8.540 картак*, г. значыць прыблізна на *20-25 аркушоў друкаванага матар'ялу*.

2. Клясыфікацыя сабранага матар'ялу, навуковая апрацоўка яго.

Увесь матар'ял клясыфікуецца па дэцымальнай сыстэме Міжнароднага Бібліографічнага Інстытуту (у Брусэлі), з папраўкамі і дадаткамі, прынятымі ў Саюзе. Як правіла, Бібліографічная Камісія мае на месцы перагляд усяго матар'ялу de visu (з натуры), паколькі гэта магчыма ў нашых умовах. Асабліва вызываецца патрэба ў такім пераглядзе, дзякуючы таму, што да гэтага часу зусім ня было бібліографічных крыніц і нават тыя, якія ўжо былі (Пенкінай, Пыпіна, Балтрамайціса, Карскага) не адпавядаюць ні паўнаце зборкі, ні ўмовам мэтодолёгіі навуковай бібліографіі, ні належнай дакладнасьці ў апісаньнях. Другі важны момант: да гэтага часу Беларусь ня была самастойным дзяржаўным організмам і таму беларускія матар'ялы ўходзяць у агульныя працы Расіі, Польшчы, Літвы, Украіны. Трэці момант: пры апрацаваньні de visu мы паводле магчымасьці расчыняем зьмест публікацыі, калі ён няясны з агалоўку і даем кароткія нататкі ў 1-3 радкі топографічнага, хронолёгічнага і інш. характару.

Гэтае можа задоўгае апісаньне варункаў, у якіх знаходзіцца праца па апісаньні матар'ялаў, мы прыводзім таму, каб было

ясьней, што Бібліографічная Камісія лічыць патрэбным пасьля двух год *пашырэньня працы* перайсьці да *паглыбленьня яе*.

3. Складаньне бібліографічнага рэпэртуару:

На падставе сабранага матар'ялу пры Дзярж. Бібліотэцы ўтворана Бібліографічная Картотэка, якая да гэтага часу налічвае каля *60.000* картак. Згодна ўмове, картотэка зьяўляецца супольнай уласнасьцю ІБК і Дзярж. Бібліотэкі і адчынена для карыстаньня навуковым працаўнікам, з мэтай даць належны даведчы і орыентацыйны апарат.

На нашу думку варта было-б пры ІБК мець дублікатную картотэку. На першы год хаця-б часткамі, па аддзелах. Выдаткі на гэта: шафа з шуфлядкамі і выдаткі на перапіску (можна на машынцы).

*Выдавецтва.*

Калі першыя два гады чыннасьці Камісіі былі годамі толькі зборкі матар'ялаў, то цяпер (фактычна з пачатку 1926 г.) на падставе сабранага і распрацаванага матар'ялу пачынаецца выданьне „Матар'ялаў да Беларускае Бібліографіі", згодна выдавецкаму пляну ІБК (гл. дадатак). Канечна ня можна лічыць працу ні ў цэлым ні ў частках закончанай зусім, але прымаючы пад увагу пільную патрэбу ў даведках, пакуль што і выдаюцца „Матар'ялы". З часам яны будуць перапрацоўвацца, або будуць друкавацца толькі дадаткі (у часопісах).

За 1926/27 год падрыхтаваны да друку:

I. „Матар'ялы да Бібліографіі Беларусі" т. I. *Прырода і вытворчыя сілы*. Зьмест кароткі: 1) Сьпіс выкарыстаных крыніц, 2) Агульны аддзел, 3) Карты фізычныя, 4) Орографія, 5) Гідрографія, 6) Кліматографія, 7) Геолёгія, 8) Глебазнаўства, 9) Флёра, 10) Фаўна, 11) Антрополёгія.

Праца зьмесьціць *3.500 картак* (ня лічачы сьпісу выкарыстаных крыніц). З паказчыкамі выйдзе прыблізна *10 друкаваных аркушох*. Праца зусім падрыхтавана да друку.

II. *Бібліографія Археолёгіі* (т. VII. 2. „Матар'ялаў"). Падрыхтавана да друку С. Дубінскім, у рэдагаваньні і складаньні пляну прымаў удзел акад. Сьпіцын, усяго маецца *2.500 картак*, прыблізна на *7 друкаваных аркушаў*.

Зьмест: I. Агульны Аддзел: а) Бібліографія, б) Пастановы, в) Камісіі, г) Зьезды, д) Музэі, е) Прародзіма. II. а) Агульны (па краінах), б) Пэрыод ужытку каменных прылад, в) Медзі і бронзы, г) Зялезны пэрыод. III. Нумізматыка, IV Сфрагістыка, V. Культ.

Бібліографія гатова да друку, ідзе праверка з бібліографічнай зборкай Смаленшчыны (Ляўданскага) і некаторыя тэхнічныя выпраўкі.

III. *Бібліографія Этнографіі.* (т. IV. „Матар'ялаў").

Увага: I. Праца пачалася ў 1-й палове 1926 году але, дзякуючы, галоўным чынам, таму, што друкарня затрымлівала корэкту кожнага аркуша на пару месяцаў, друкаваньне ішло павольна.

II. У часе корэкты матар'ялы пераглядаліся de visu, што дало магчымасьць унікнуць сур'ёзных памылак, але зацягнула друкаваньне.

На падставе кортотэкі друкаваліся ў „Нашым Краі" матар'ялы па Меншчыне і Магілеўшчыне (падаў С. Дубінскі). Апрацавана Ў. Пракулевічам і С. Дубінскім бібліографія Мазыршчыны прырода, этнографія, археолёгія,—усяго 450 картак і перадана Мазырскаму Краязнаўчаму гуртку для друку.

На жаль Пленум Камісіі ў мінулым акадэмічным годзе зусім ня зьбіраўся, бо, як відаць з справаздачы, уся праца Камісіі вялася выключна ў практычным напрамку.

*Плян выданьняў Бібліографічнай Камісіі І. Б. К.*

Матар'ялы па беларускай бібліографіі.

Том. I. Прырода і вытворчыя сілы.
1. Фізычная географія і картографія.
2. Геолёгія, глеба, мінэральныя багацьці.
3. Флёра і фаўна.

Том. II. Народная гаспадарка.
1. Сельская і лясная гаспадарка.
2. Апрацоўчая прамысловасьць.
3. Коопэрацыя.

Том. III. Політычнае і грамадзкае жыцьцё.
1. Гісторыя рэволюцыйнага руху.
2. Сучаснае політычнае і грамадзкае жыцьцё. Нацыянальнае пытаньне.
3. Народная асьвета.
4. Народнае здароўе.
5. Соцыографія і статыстыка.

Том. IV. Этнографія.

Том. V. Мова і літаратура.

Том. VI. Мастацтва.

Том. VII. Гісторыя і археолёгія.
1. Гісторыографія і крыніцы.
2. Археолёгія.
3. Агульная гісторыя Беларусі.
4. Гісторыя паасобных краін.

# Справаздача Асоцыяцыі НОП аб працы за 1926/27 акад. год.

Асоцыяцыя НОП была заснавана 30 лістапада 1924 году. Псыхотэхнічная лябораторыя Асоцыяцыі НОП пачала працаваць з мая 1925 году. У Асоцыяцыю НОП цяпер уходзяць 46 асоб; у Прэзыдыум Асоцыяцыі НОП уходзяць наступныя асобы: Старшыня—тав. Усьпенскі, адказны сакратар—тав. Ракаў; члены прэзыдыуму—проф. Васілейскі, проф. Кроль, т. Гайвароўскі, т. Натансон, т. Алесін; кандыдаты ў члены прэзыдыуму—д-р Гольдблят, т. Мінькоў, т. Мількамановіч і Тэхнічны Сакратар Асоцыяцыі—тав. Вержбаловіч. Штат Псыхотэхнічнае лябораторыі складаўся з загадчыка лябораторыі проф. Васілейскага, асыстэнта Гайвароўскага і лябораита—Вержбаловіча, прычым з другой паловы гэтага году ў лябораторыі дадаткова сталі працаваць яшчэ два супрацоўнікі т. Трубёнак для тэхнічнае апрацоўкі матар'ялаў і д-р Школьнікаў, які працуе пад кіраўніцтвам проф. Кроля па фізыолёгіі працы.

Сябрамі Асоцыяцыі НОП у 1926/27 годзе было праведзена вывучэньне нізавога коопэрацыйнага апарату.

Псыхотэхнічнай лябораторыяй у 1926/27 годзе былі праведзены наступныя навукова-дасьледчыя працы: 1) разьбіўка па ступенях уздольненасьці прыбыўшага маладняка ў часьці пагранаховы, 2) дасьледваньне профуздольненасьці слухачоў чыгуначнага Тэхнікуму, 3) дасьледваньне профуздольненасьці вучняў школы фабзавучу, 4) дасьледваньне кругаведаў і рэальных прадстаўленьняў у розных груп насельніцтва БССР, 5) мэтодолёгічныя дасьледваньні профуздольненасьці хірургаў з мэтай выпрацоўкі псыхограмы хірурга, 6) дасьледваньне кругу літаратурных ведаў розных культурных соцыяльных і нацыянальных груп сучаснай моладзі, 7) дасьледваньне дзіцячага мышленьня. Апрача дасьледчай, навукова-мэтодолёгічнай і практычнай працы Псыхотэхнічная лябораторыя пры дапамозе сваіх супрацоўнікаў правяла цэлы шэраг навуковых і навукова-популярных дакладаў для азнаямленьня розных груп насельніцтва з працай лябораторыі і сучаснымі дасягненьнямі ў галіне псыхотэхнікі. Таксама загадчык лябораторыі проф. Васілейскі і асыстэнт Гайвароўскі прымалі ўдзел у маі 1927 году на Ўсесаюзным Зьезьдзе псыхотэхнікаў у Маскве, і проф. Васілейскі прымаў удзел на міжнародным конгрэсе псыхотэхнікаў, які адбыўся ў Парыжы ў верасьні 1927 году.

Падрыхтаваны да друку наступныя працы:

1. Зборнік прац па этнографіі, антраполёгіі і псыхотэхніцы і навуковай організацыі працы за 1926/27 год, у які ўходзяць наступныя артыкулы:

а) Проф. Васілейскі.—Спроба псыхотэхнічнае кваліфікацыі шофэраў.

б) Пераход.—НОП і лесакіраваньне.

в) Гайвароўскі.—Нарыс мэтодолёгіі профэсыографіі.

г) Макараў.—Аб бюджэце часу беларускага селяніна.

д) Д-р Діхцяр.—Мэтодыка дасьледваньня ўплыву працы.

2. Проф. Васілейскі.—Экспэрымэнтальна-псыхолёгічнае дасьледваньне мышленьня ў дзяцей.

3. Гайвароўскі—Проблема аўтопсыхотэхнікі.

4. „ Асновы псыхотэхнікі ў політ.-асьветнай працы.

Працы, якія былі надрукованы ў 1926/27 годзе:

1. Проф. Васілейскі. Уступ у тэорыю і тэхніку псыхолёгічных, пэдолёгічных і псыхотэхнічных дасьледваньняў.

2. Проф. Васілейскі. Сстатыстычны мэтод у прыстасаваньні да псыхолёгіі, пэдолёгіі і псыхотэхнікі.

3. Проф. Васілейскі. Мэтодыка і тэхніка пэдолёгапэдагогічных нагляданьняў над дзяцьмі.

4. Гайвароўскі.—Натуральны экспэрымэнт і рухавыя коэфіцыенты.

5. Гайвароўскі.—Псыхолёгія дарослага малакультурнага чалавека.

6. Ракаў. 2 артыкулы ў часоп. „Савецкае Будаўніцтва“ пад назвай: „Рацыяналізацыя савецкага апарату“.

---

## Цэнтральнае Быро Краязнаўства.

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства заснавалася пры Інстытуце Беларускае Культуры 1 студзеня 1924 году, але сталую і сыстэматычную працу пачало з 1926 году. У сучасны момант яно складаецца з старшыні М. І. Бялугі, яго намесьніка А. З. Казака, навуковага сакратара М. І. Касьпяровіча і інструктароў: А. А. Шашалевіча, С. К. Жураўскага, Аляксандрава і Даукшы. Кругабег працы ІБК ад пачатку яго існаваньня да лютага месяца 1927 году асьветлены ў „Працах“ I і II усебеларускіх краязнаўчых зьездаў і № 10 „Нашага Краю“ за 1927 г.

З лютага месяца да сучаснага моманту праца ЦБК вялася прэзыдыумам яго і камісіямі: школьнага краязнаўства, студэнцкай і падарожніцкай. Апрача таго, у апошні час пры ЦБК заснавалася фэнолёгічная камісія і мэдычна-санітарнае консультацыйнае бюро.

За люты—сьнежань месяцы Прэзыдыум ЦБК меў 40 паседжаньняў, на якіх разглядалася па 10 пытаньняў у сярэд-

нім. Апрача таго 10-13 лютага адбыўся Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд, а 23-25 лістапада, чарговы пленум ЦБК. Асаблівую ўвагу на працягу паказанага часу Прэзыдыум ЦБК зварачаў на распрацоўку пытаньняў—мэтодаў краязнаўчай працы, мэтодаў організацыі краязнаўчага руху а таксама на дэталізацыю задач і зьместу краязнаўчай дзейнасьці—вызначаных першым Усебеларускім Краязнаўчым Зьездам. Была распачата праца вывучэньня гісторыі краязнаўства на Беларусі і азнаямленьня з сучасным станам і гісторыяй краязнаўства ў іншых краінах, для скарыстаньня іх практыкі ў нас. У сувязі з гэтым адбылася замежная камандыроўка навуковага сакратара ЦБК М. І Касьпяровіча ў Фіншчыну і інш. краіны. Пленум ЦБК вызначыў чарговыя задачы ў розных галінах дзейнасьці краязнаўчых організацый і заслухаў справаздачны даклад т. Касьпяровіча „Аб краязнаўстве ў Фін.“. Зараз вядзецца падрыхтоўка да абслугоўваньня акруговых краязнаўчых конфэрэнцый.

Школьна-краязнаўчая Камісія ЦБК распрацавала формы падліку працы школьна-краязнаўчых гурткоў. Студэнцкая Камісія дапамагла організацыйнаму аформленьню краязнаўчых організацый у вышэйшых школах і тэхнікумах. Падарожніцкая Камісія выпрацавала 12 маршрутаў падарож па БССР з літаратурай да іх і прыступіла да зьбіраньня матар'ялаў для ўкладаньня падарожніка па БССР. Фэнолёгічная Камісія распрацавала схэму організацыі і апрацоўкі фэнолёгічных назіраньняў, блянкі для іх і блянкі абагульненьняў і ўклала канчатковую мінімальную програму назіраньняў. Мэдычна-консультацыйнае бюро прыступіла да організацыі справы мэдычна-санітарнага дасьледваньня вёсак і гарадоў, для чаго організуюцца асобныя гурткі з мэдычна-санітарных працаўнікоў.

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства на працягу данага часу абслугоўвала 8 акруговых таварыстваў краязнаўства, 101 раённае і 130 гурткоў краязнаўства, а ўсяго 239 організацый. За гэты час яны сабралі 2.052 словы-карткі, 3.239 фольклёрных запісаў і 218 нумароў іншых матар'ялаў.

Яўрэйскі і польскі інструктары ЦБК значна дапамаглі мясцовым організацыям у справе наладжваньня працы краязнаўства сярод польскай і яўрэйскай насельнасьці, у выніку чаго першая ў Полацку, а другая ў Віцебску набылі плянавасьць і сыстэматычнасьць.

З 1925 году ЦБК выдае свой штомесячнік „Наш Край“ апрача таго, выдадзены „Працы I і II ўсебеларускіх краязнаўчых зьездаў“ і друкуецца першая частка апісаньня Асіпавіцкага раёну. Членамі Цэнтральнага Бюро Краязнаўства надрукаваны: *М. Бялуга.*—Рэорганізацыя ІБК („Наш Край“ № 10 за 1927 г.); *А. Казак.*—Краязнаўства ў БССР к дзесяцігодзьдзю Кастрычнікавай

рэволюцыі („Наш Край“, 1927 г. № 10); *М. Касьпяровіч.* Віцебскі Краёвы Слоўнік (Віцебск, 1927); Беларуская навука да Кастрычніка і пасьля яго (Менск, 1927) і інш.; *А. Шашалевіч.* Інструкцыйна-краязнаўчая літаратура („Наш Край“, 1927г. № 10); *С. Жураўскі.* Масавае настаўніцтва ў навукова-краязнаўчай працы („Наш Край“, № 10 за 1927 г.) і інш.

---

## Выдавецтва.

Пастановаю агульнага сходу членаў ІБК ад 21.II.1925 г. справа выданьняў ІБК даручана Рэдакцыйнай Колегіі ў скдадзе Старшыні Р. К.—тав. Чарнушэвіча, яго намесьнікаў—адказных рэдактароў па аддзелах ІБК—т. Ашаровіча і Вансоўскага і членаў—Жылуновіча, Усьпенскага, Лёсіка, Смоліча, Дылы і сакратара Рэдколегіі—т. Грамыка М.

У такім складзе Колегія праіснавала блізка год. У яе асабовым складзе былі некаторыя зьмены. К 1926 году ў складзе Колегіі засталося нямнога актыўных працаўнікоў. Дзякуючы гэтаму перад Прэзыдыумам Інстытуту Беларускае Культуры паўстала пытаньне аб утварэньні такое ўстановы, якая-б здолела аб'яднаць і весьці ўсю выдавецкую справу ІБК. Гэта запатрабаваньне вымагалася яшчэ і пашырэньнем літаратурнае і навуковае працы Інстытуту.

З 1.I.1926 г. створаны быў Выдавецкі Аддзел з тав. Смолічам на чале, сакратаром Аддзелу быў прызначаны тав. Красінскі, апрача таго пры Аддзеле была ўтворана Рэдакцыйная Колегія ў складзе: Старшыня—т. Смоліч, Сакратар—Красінскі, члены: т. т. Лёсік, проф. Доўнар-Запольскі, Акулік і Трамповіч.

Пастановаю Прэзыдыуму ІБК ад 12.IV.1927 году Загадчыкам Выдавецкага Аддзелу замест тав. Смоліча быў прызначаны тав. Каранеўскі. Рэдакцыйна-Выдавецкая Колегія перастала існаваць значна раней. Такім чынам уся выдавецкая справа апынулася ў руках аднае асобы—Загадчыка Аддзелу.

З 1-га кастрычніка 1927 г. на чале Рэдакцыйна-Выдавецкага Аддзелу стаў тав. Бялуга, а самы Аддзел, паводле новай структуры Інбелкульту, перамяновуецца ў Выдавецкае Бюро.

На справаздачны 1926-27 год выдавецкія сродкі ІБК складаліся:

| | |
|---|---|
| а) па каштарысу . . . . | 75.700 р. |
| б) з сродкаў, адпушчаных на выданьне прац Акадэмічнае Конфэрэнцыі . . | 15.197 р. 03 к. |
| в) з рэзэрвовага фонду СНК . . | 2.776 р. 69 к. |
| г) пераведзена з іншых §§ каштарысу ІБК | 6.200 р. — |
| Разам . | 99.873 р. 72 к. |

Паказаныя сродкі былі выдаткованы:

а) на выданьне прац Інбелкульту . . 61.972 р. 55 к.

б) на выданьне прац Акадэмічнае Конфэрэнцыі . . . . . . 9.402 р. 37 к.

в) на выданьне матар'ялаў па дасьледваньні Гомельшчыны . . . . 776 р. 69 к.

г) на набыцьцё і абсталяваньне друкарні . . . . . . . 23.599 р. 58 к.

д) задатак на набыцьцё новай машыны . 4.122 р. 53 к.

Выходзячы з тэхнічных і грашовых магчымасьцяй і ўлічваючы ўсе заяўкі на надрукаваньне літаратурнай працы сваіх устаноў, Прэзыдыум Інстытуту Беларускае Культуры ўклаў наступны выдавецкі плян на справаздачны год:

1. Часопіс „Наш Край" . . . . . 48 др. арк.
2. Працы ІІ-га Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду . . . . . . . 5 „ „
3. Узорнае апісаньне Асіпавіцкага раёну . 10 „ „
4. Растаргуеў. Северска-беларускія говары . 15 „ „
5. Шчакаціхін. Гісторыя беларускага мастацтва 10 „ „
6. Зборнік працпа мове, этнографіі і літаратуры. 15 „ „
7. Краёвы слоўнік . . . . . . 5 „ „
8. Фольклёр Віцебшчыны . . . . 20 „ „
9. Акадэмічнае выданьне твораў Багдановіча, І т. 20 „ „
10. Беларускі Архіў . . . . . 10 „ „
11. Тэрмінолёгіі . . . . . 20 „ „
12. Гістарычна-Археолёгічны зборнік . . 15 „ „
13. Зборнік докумэнтаў па рэвруху . . 15 „ „
14. Падарожнік па Менску . . . . 10 „ „
15. Бібліографія этнографіі . . . 10 „ „
16. Беларускія народныя песьні . . . 7 „ „
17. Дыялектолёгічныя програмы і інструкцыі . 10 „ „
18. Вайсковы слоўнік . . . . 15 „ „
19. Зборнік па геолёгіі і глебазнаўству . . 15 „ „
20. Зборнік па геоботаніцы і фаўне . . 20 „ „
21. Гарэцкі Г. Народная гаспадарка Заходняй Беларусі . . . . . . . . 15 „ „
22. Зборнік хатніх рамёстваў . . . . 5 „ „
23. Зборнік па антрополёгіі і мэдыцыне . . 10 „ „
24. Зборнік Навуковай Організацыі Працы . 10 „ „
25. „Цайтшрыфт" том ІІ . . . . 21 „ „
26. „Ройтэ Блетэр" . . . . . . 15 „ „
27. 1863 год на Меншчыне . . . . 15 „ „
28. 1863 год на Віцебшчыне . . . . 20 „ „
29. Працы Навуковага Таварыства па вывучэньні Беларусі т. ІІІ . . . . . 15 „ „
30. Апісаньне Горацкага раёну . . . 10 „ „

Такім чынам увесь орыентовачны плян складаў 414 др. арк., куды ўвайшлі і працы, якія засталіся ненадрукаваны ў 1925/26 годзе.

Падзяляючы прыблізна гэты плян па асноўных галінах навук, разьмеркаваньне друкаваных прац па агульным ліку аркушаў было наступнае:

а) гуманітарныя навукі—253 арк.; прырода і гаспадарка—98; краязнаўства—(часоп. „Наш Край" і інш.) 63 арк.

У працягу справаздачнага году з паказанага пляну былі надрукаваны наступныя працы:

1. Па краязнаўству (час. „Наш Край" і інш.) . 56½ арк.
2. Беларускі Архіў, т. I . . . . 22 „
3. Растаргуеў. Северско-бел. говоры . . 12 „
4. Багдановіч. Творы, т. I . . . 31½ „
5. Гістарычна-археолёгічны зборнік . . 24½ „
6. Працы Навуковага Т-ва ў Горках, т. II . 14 „
7. Працы па мове (Бузук і Растаргуеў) . . 2½ „
8. Казкі і апавяданьні беларусоў Слуцкага пав. Сержпутоўскага . . . . . 15¾ „
9. Вайсковы практычны слоўнік . . . 15¾ „
10. Тэрмінолёгіі: (грамадазнаўства, зоолёгічная, мэдычная, праўная) . . . . . 28½ „
11. Проклямацыі 1905 г. . . . . 16 „
12. 1863 г. на Меншчыне . . . . 13½ „
13. „Цайтшрыфт" . . . . . 31 „
14. „Ройтэ Блетэр . . . . . 15 „

Апрача таго, неплянавых прац было надрукавана:

1. Матар'ялаў для вывучэньня флёры і фаўны Беларусі. т. I . . . . . . . 9 арк.
2. Працы Беларускай Акадэмічнай Конфэрэнцыі 22 „
3. 400-годзьдзе беларускага друку . . . 22½ „
4. Вайсковы сьпеўнік . . . . . 3½ „
5. Смоліч. Організацыя сельскай гаспадаркі цэнтральных раёнаў Беларусі . . . . 9 „
6. і розных дробных прац, якія засталіся ад 1925/26 году . . . . . . . каля 30 „

З плянавых навукова-літаратурных прац перанесены на 1927/1928 бюджэтны год усе тыя працы, якія былі зданы да друку, але не надрукаваны да 1 кастрычніка 1927 году. Працы гэтыя наступныя:

1. Шлюбскі. Матар'ялы да вывучэньня фольклёру і мовы Віцебшчыны.
2. Шчакаціхін. Гісторыя беларускага мастацтва.
3. Філёлёгічны зборнік.
4. Флёра і фаўна Беларусі, т. II.
5. Гарэцкі М. Народныя песьні.

6. Апісаньне Асіпавіцкага раёну.
7. Працы Навуковага Таварыства ў Горках, т. IV.
8. Апісаньне Горацкага Раённага Таварыства.
9. Мэдычны зборнік.
10. Бібліографія этнографіі.
11. Зборнік навуковых прац Інбелкульту (Працы НОП'у, па антрополёгіі, па мастацтву і па этнографіі).
12. Тэрмінолёгіі: матэматычная і граматыка-лінгвістычная.

З плянавых прац ня здадзены да друку наступныя працы:
1. Гарэцкі Г. Народная гаспадарка Зах. Беларусі.
2. Зборнік па геолёгіі і глебазнаўству.
3. Зборнік хатніх рамёстваў.
4. Падарожнік па Менску.
5. Краёвы слоўнік.

Такім чынам, плян ня быў поўнасьцю выкананы дзякуючы наступным прычынам: папершае, ІБК ня меў належных сродкаў на выданьне ўсіх плянавых прац; падругое, сучаснае абсталяваньне друкарні ІБК не дазваляла поўнасьцю надрукаваць плянавыя працы, якія перанесены на 1927/28 бюджэтны год.

---

## Навуковае Таварыства для вывучэньня Беларусі пры Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскае Гаспадаркі ў Горках.

У склад Т-ва ўходзіць 112 ч. Членамі Т-ва зьяўляюцца 25 профэсароў, 15 доцэнтаў, 36 асыстэнтаў, 14 навуковых супрацоўнікаў і інш.

Праца Т-ва выконвалася на агульных сходах, у Кіраўніцтве Т-ва, у ўпамянёных сэкцыях і камісіях: тэрмінолёгічнай, навукова-дасьледчай і рэдакцыйнай.

Працу Т-ва можна разьдзяліць на такія часткі: навукова-дасьледчая, краязнаўчая, тэрмінолёгічная, выдавецкая і арганізацыйная.

Навукова-дасьледчая праца Т-ва вялася ў напрамку заслухоўваньня дакладаў аб раней праведзеных досьледах і ў выкананьні новых досьледаў. Заслухоўваліся даклады як на агульных сходах, так і на сэкцыях. Распрацоўка новых тэм, згодна дасьледчага пляну Т-ва, вядзецца членамі яго пасьля разгляду гэтых тэм у сэкцыях, у Навукова-Дасьледчай Камісіі і канчатковага зацьверджаньня Кіраўніцтвам Навуковага Т-ва і Інбелкультам.

У гэтым годзе, дзякуючы водпуску Інбелкультам сродкаў на навуковую працу Т-ва, распрацоўваюцца наступныя тэмы: 1) К. М. Кораткаў: „Вывучэньне грунтовых вод Горацкага раёну“, 2) проф. І. Г. Васількоў і З. М. Дзянісаў:

„Дасьледаваньне лугавых згуртаваньняў на р. Случы і Бярозе“, 3) проф. І. Г. Васількоў і З. М. Дзянісаў: „Дасьледваньне засьмечанасьці культур і глеб Аршанскай акругі“, 4) проф. С. В. Скандракоў: „Вывучэньне засьмечанасьці сялянскіх палеткаў“, 5) А. Ц. Савельеў: „Вывучэньне насеньня на Калініншчыне“, 6) проф. К. Г. Рэнард і Г. Р. Рэго: „Вывучэньне экспортнай канюшыны“, 7) проф. К. Г. Рэнард і Г. Р. Рэго „Дробнарасавае вывучэньне аўсоў і ячменяў“, 8) проф. М. І. Бурштэйн: „Дасьледваньне раёну распаўсюджаньня Слуцкае Бэры“, 9) проф. М. І. Бурштэйн і Р. С. Гуржы: „Дасьледваньне садовае гаспадаркі селяніна дасьледчыка Алеся Сіцько на Мазыршчыне“, 10) проф. Н. Н. Пелехаў: „Сялянскае каняводзтва БССР з 1888 па 1912 г.г.“, 11) С. І Журык: „Вывучэньне макухі БССР“, 12) Т. Т. Тавілдарова: „Праверка формулы Флейшмана для малака беларускіх кароў“, 13) М. З. Лайкоў: „Вывучэньне ўплыву агрыкультурнай дзейнасьці Горацкага С.-Г. Інстытуту і Беларускай С.-Г. Акадэміі на насельніцтва БССР“, 14) І М. Серада: „Вывучэньне дыстаматозу на Беларусі“, 15) О. К. Кедраў-Зіхман: „Вывучэньне беларускіх фосфарытаў і торфу, як угнаеньня“. Паднята пытаньне проф. А. В. Ключаровым аб вывучэньні „pH“ у глебах Аршаншчыны. Членамі Т-ва распрацоўваецца шэраг тэм, на якія ня трэба опэрацыйных выдаткаў. Так, напрыклад—Паўлаў Ф. А. распрацоўвае: „Роля навучальных с.-г. фэрм Вузаў і Тэхнікумаў“. Р. І. Пратасеня—„Глебы хутару Фатынь Язэпа Мароза“, пад кіраўніцтвам проф. Мельніка С. П. Маладымі навуковымі працаўнікамі вядзецца досьлед: „Вывучэньне дрэўных расьлін на Беларусі“ і г. д. Члены Т-ва ўдзельнічаюць у досьледах, організаваных Інбелкультам для вывучэньня глебы, геолёгіі Беларусі, тэхнікі сялянскай гаспадаркі, зямляўпарадкаваньня на Беларусі і інш.

На паседжаньнях Прыродазнаўчае сэкцыі заслуханы такія даклады: 1) проф. І. Г. Васількоў: „Аб гэрбарным матар'яле беларускіх расьлін“, 2) М. М. Ганчарык: „Беларускія назовы расьлін“, 3) Н. К. Навіцкая: „Аб навуковай камандыроўцы па біолёгічных станцыях“, 4) проф. Армфэльд: „Паўтарэньне досьледу Майкельсона (прынцып адноснасьці) на ўзвышшы Казбэк“, 5) проф. Армфэльд; „Упрошчанае паўтарэньне досьледу Майкельсона на ўзвышшы Казбэк“, 6) проф. І. І. Красікаў: „Насычаныя росчыны соляў, як расчынікі“, 7) К. М. Кораткаў: „Выхад продуктаў сухой перагонкі торфу Чапелінскага балота Горацкага раёну“, 8) проф. О. К. Кедраў-Зіхман: „Некаторыя даныя аб узаемадзейнасьці фосфарытаў з падзолавай глебай (на аб'яднаным сходзе з Агрономічнай сэкцыяй; работа сумесная з О. Э. Кедравай-Зіхман, 9) проф.

П. Ф. Салаўёў: „Навукова-музэйная праца катэдры заолёгіі“, 10) Сьвірскі: „Назіраньні над галубамі“, 11) професар І. Г. Васількоў: „Дасьледчая і музэйная праца катэдры ботанікі“.

На паседжаньнях Агрономічнае сэкцыі заслуханы наступныя даклады: 1) Г. Р. Рэго: „Мэтоды лябораторнага дасьледваньня чыстагатункаваcьці аўсу і ячменю“, 2) проф. Н. Н. Пелехаў: „Аб навуковым архіве Акадэміі“, 3) проф. М. І. Бурштэйн: „Досьледы пладавода-орыгінатара Алеся Сіцько на Мазыршчыне“, 4) А. Ц. Савельеў; „Асаблівасьці некаторых культурных расьлін з сям'і бабовых (Leguminosae) у адносінах да воднага рэжыму“, 5) проф. Н. Н. Пелехаў: „Сялянскае каняводзтва б. Менскай, Віленскай, Віцебскай і Магілеўскай губэрань за тэрмін з 1888 г. па 1912 год“, 6) професар Н. Н. Пелехаў: „К гісторыі с.-г. дасьледчай справы ў б. Расіі“, 7) С. І. Журык: „Летняе ўтрыманьне мясцовых беларускіх кароў на сеяных травах“, 8) С. І. Журык: „Проект досьледу быдла на Беларусі“ (у С.-Г. Сэкцыі ІБК), 9) Р. С. Гуржы „Вынікі ад падрэзкі дзічак у гадавальніку Акадэміі ў 1925 г.“, 10) Г. Р. Рэго: „Уплыў вэгетацыйных фактараў і агрыкультурных мерапрыемстваў на ботанічны склад папуляцыі“, 11) проф. М. І. Бурштэйн: „Аб усесаюзнай конфэрэнцыі садоўніцтва пры Інстытуце Прыкладной Ботанікі і новых Культур імя Леніна ў Ленінградзе 7—14 лютага 1927 г.“, 12) проф. К. Г. Рэнард: „Усесаюзны зьезд па дасьледчай справе ў Ленінградзе 15—24 лютага 1927 г.“, 13) проф: К. Г. Рэнард: „Асаблівасьці піваварных ячменяў у зьвязку з агрыкультурнымі мерапрыемствамі“, 15) проф. С. В. Скандракоў: „Да пытаньня аб вывучэньні беларускае сялянскае шасьціпалёўкі“.

На Лясной сэкцыі былі заслуханы такія даклады: 1) проф. В. І Пераход: „Проблемы організацыі лясных гаспадарак Беларусі“, 2) проф. У. В. Шкацелаў: „Падсочка хвоі на Беларусі“, 3) Т. Н. Турыцын: „Да пытаньня аб зьмене расійскіх часовых масавых табліц пры ацэнцы лесасек у БССР табліцамі па бонітэтах“, 4) Г. І. Несьцярчук: „Сымбіоз і яго значэньне ў лясной гаспадарцы“, 5) М. М. Медзіш: „Аб неабходнасьці досьледу над мікарызаю і сучасная пастаноўка гэтых досьледаў проф. Меліным“, 6) А. Л. Новікаў: „Тыпы дрэвастанаў Беларусі“, 7) Георгіеўскі: „Расійская падзваротнікі—Батумскі ботанічны сад і Чаква“. 8) А. Л. Новікаў: „Тыпы дрэвастану Васілевіцкай лясной дачы; экскурсійныя ўражаньні з Кашалёўскай лясной дачы і Бранскага Дасьледчага лясьніцтва“, 9) проф. С. П. Мельнік: „Сучасны стан Старога Парку пры Беларускай Дз. Акадэміі Сельскае Гаспадаркі“, 10) проф. В. І. Пераход: „Лясы мясцовага значэньня“, 11) Ф. П. Майсеенка: „Кароткія зьвесткі аб лясох Го-

мельшчыны“ 12) проф. В. К. Захароў: „Прынцыпы складаньня сартамэнтных табліц для Беларусі“.

*Сэкцыя зямляўпарадкаваньня і мэліорацыі.* Сэкцыя арганізавана 5-га траўня 1926 г. На сходах сэкцыі заслуханы наступныя даклады: 1) Проф. П. А. Хадаровіч: „Аб формулах дапускальных лінейных навязак палігонаў“, 2) профэсар У. І. Кіркор: „К пытаньню аб проектаваньні палос пры зямляўпарадкаваньні“ (даклад на 2 агульных сходах сэкцыі). 3) проф. У. І. Кіркор: „Проектаваньне палос веерам“, 4) профэсар П. А. Хадаровіч: „Уплыў сыстэматычных памылак лінейных мараньняў на зьмяшчэньне вяршын палігону і ўплыў разьмераў і форм палігону на няўвязку ў пярымэтру, 5) профэсар П. А. Хадаровіч: „Вызначэньне шыраты з нагляданьня хуткасьці зьмяшчэньня сьвяціл па азімуту і зянітнай адлегласьці“.

Усяго дакладаў за мінулы год, ня лічучы організацыйных, было заслухана 57.

Членамі Таварыства прагледжана складзеная ІБК бібліографія для сельска-гаспадарчых навук. Далей яна дапаўняецца пад наглядам Д. Р. Новікава.

Тэрмінолёгічная праца за мінулы год да 25 лістапада 1926 г. мела характар ня зусім выразна організаваны таму, што ня было конкрэтных заданьняў ад Інбелкульту і ня было сродкаў.

З 25 лістапада, пасьля атрыманьня адносьніка ад Галоўнай Тэрмінолёгічнай Камісіі аб організацыі працы, быў апрацаваны Таварыствам дакладны плян, які 9 студзеня 1927 году быў ухвалены агульным сходам Навуковага Т-ва.

Ухвалена апрацоўваць тэрмінолёгіі ў першую чаргу для тых галін, для якіх да гэтага часу няма надрукаванай тэрмінолёгіі.

Плян прадбачыць распрацоўку тэрмінолёгіі для наступных галін: ботанічную, зоолёгічную, с.-г. расьлінаводчую, садоўніцтва і гароднідтва, лясную, геолёгіі і глебазнаўства, мэліорацыі, жывёлагадоўлі, экономічную, грамадзка-прававую, тэхнічна-зямляўпарадкаваўчую, фізыка-матэматычную, хэмічную, с.-г. машыназнаўчую і будаўнічую.

Апрацоўка вядзецца ў памянёных галінах у тэрмінолёгічных падкамісіях.

Усе да гэтага часу выпушчаныя з друку Інбелкультам тэрмінолёгіі маюцца на ўвазе пры далейшай рабоце.

Прадбачыцца зьбіраць тэрміны ў сялян, якімі яны карыстаюцца ў с.-г. абставінах. Гэты плян ухвалены Галоўнай Тэрмінолёгічнай Камісіяй Інбелкульту.

За мінулы год надрукована 20.000 тэрмінолёгічных картак, якія больш чым напалову ўжо запоўнены.

Пераапрацавана прысланая з Інбелкульту хэмічная тэрмінолёгія спэцыялістымі хэмікамі.

Апрацована на 4 мовах расійскай, беларускай, украінскай і нямецкай глебазнаўчая тэрмінолёгія; яна будзе друкавацца на расійскай, беларускай і нямецкай мовах. Апрацована 90 тэрмінаў.

Заканчваецца апрацоўка лясной тэрмінолёгіі на 4 мовах у ліку 3.500 слоў.

Выпісана на карткі 1.300 тэрмінаў на расійскай мове да жывёлагадоўлі і выпрацоўваюцца беларускія. Будуць таксама выпісаны тэрміны і панямецку.

Заканчваецца апрацоўка на 4 мовах с.-г.-расьлінаводнай і да с.-г. дасьледчай справы тэрмінолёгія ў ліку каля 1.000 тэрмінаў.

Выпісана 500 тэрмінаў да садаўніцтва і выпрацоўваюцца беларускія.

Складзены слоўнік па с.-г. экономікі на расійскай мове і выпрацоўвуецца беларускі.

Выпісаны расійскія тэрміны да с.-г. машыназнаўства, геодэзіі, мэліорацыі і зямляўпрадкаваньня.

Пераглядаецца тэрмінолёгія ботанікі і апрацоўвуецца да фізіолёгіі расьлін.

Зложаны кароткі с.-г. слоўнік популярных тэрмінаў.

Выдавецкая праца Т-ва праводзілася рэдакцыйнай Камісіяй Т-ва.

Усе работы Навуковага Т-ва праходзяць праз Рэдакцыйна-Выдавецкі Аддзел Інбелкульту.

Выпушчаны з друку два томы: „Праца Навуковага Таварыства па вывучэньні Беларусі". Канчаецца падрыхтоўка памянутага ўжо зборніка: „Апісаньне Горацкага раёну", які выйдзе як III-ці том „Працы Таварыства" сумесна з Горацкім Раённым Таварыствам Краязнаўства. Падрыхтоўвуецца да друку IV том: „Працы Таварыства".

Усяго выдана чатыры томы па 12—15 друкаваных аркушаў.

---

## Яўрэйскі Аддзел.

Загадчыкам Яўаддзелу ІБК зьяўляецца тав. Б. Аршанскі.

У сучасны момант пры Яўсэктары існуюць наступныя камісіі: (організаваныя ў 1925 г.).

1) Гістарычная Камісія ў складзе т.т. І. Сосіса (старшыня), Г. Аляксандрава (сакратар), Б. Левіна, Л. Розэнгаўза, А. Валабрынскага.

2) У тым-жа складзе організавана Соцыяльна-Экономічная Камісія.

3) Лінгвістычная Камісія ў складзе т.т. М. Вэйнгера (старшыня), І. Раўрэбэ, Х. Кагана, Д. Руманавай, М. Файнзільбэра.

4) Фольклёрная Камісія ў складзе т.т. І. Раўрэбэ (старшыня), І. Гольдбэрга, Х. Голмштока.

5) Літаратурная Камісія ў складзе т.т. Б. Аршанскага, У. Фінкеля, Я. Бронштэйна, Х. Голмштока.

6) Яўрэйская Сэкцыя ЦБК у складзе т.т. Г. Аляксандрава (старшыня), З. Ошэрава, Х. Дунец.

На працягу мінулага акадэмічнага году камісіі правялі наступную працу.

1. Гістарычная камісія амаль што закончыла зьбіраньне матар'ялаў соцыяльна-экономічнага характару з равінскіх рэспонсаў і анонімнай равінскай літаратуры (т.т. Раўрэбэ, Шульман, Манэс). Зроблены опіс яўрэйскіх архіўных матар'ялаў Менскага Кагалу (т.т. Аляксандраў і Палеес)—і быўш. Беларускага Гэнэрал-Губэрнатарства (т. Аляксандраў). Друкуюцца наступныя працы: 1) І. Сосіс.—„Яўрэйскі Сойм у Літве і Беларусі"; 2) С. Гінзбург.—„Да гісторыі яўрэйскай рэкрутчыны"; 3) С. Боровой і М. Бужэвіч.—„Да гісторыі колёнізацыі яўрэяў у Новарасіі"; 4) Д-р М. Вішніцэр.—„Яўрэйскія рамесьніцкія цэхі ў XVI ст."; 5) Проф. М. Нікольскі.—„Новая кніга па гісторыі дрэўняга Ізраіля".

Падрыхтаваны да друку шэраг матар'ялаў па гісторыі рэволюцыйнага руху сярод яўрэяў у Беларусі „Ройтэ Блетэр" (15 друк. аркушаў).

2. Соцыяльна-Экономічная Камісія сабрала значны матар'ял па экономіцы яўрэйскага насяленьня Беларусі. Друкуюцца наступныя працы: 1) І. Угорскі. „Яўрэйскія земляробскія гаспадаркі БССР; 2) Агр. А. Каз. „Яўрэйскія колектывы БССР" 3) Г. Аляксандраў. „Яўрэйскае насельніцтва ў гарадох і мястэчках Беларусі"; 4) Д-р Эйнгорн. „Яўрэйская рабочая моладзь БССР"; Падрыхтаваны матар'ялы па бюджэту яўрэйскіх сялян БССР (т.т. А. Папялішка і А. Цэйтлін). Праведзены экспэдыцыі па монографічным вывучэньні мястэчак Лапічы (Бабруйскае акр.) і Нароўля (Мазырскае акр.).

3. Лінгвістычная Камісія правяла працу па акадэмічным яўрэйскім слоўніку (сабрана да 170.000 картак з розных пісьменьнікаў); выданы 2 тэрмінолёгіі—матэматычная і юрыдычная; падрыхтаваны шэраг тэрмінолёгічных проектаў—па хэміі, агрономіі, фізыцы, канц. адміністрацыйнай і г. д. Па дыялектолёгіі сабраны больш-менш поўныя фонэтычныя апісаньні да 100 насялёных пунктаў. Па дыялектолёгічным атласу разаслана 6 анкет; атрымана да 1.000 адказаў. У сувязі з гэтай працай маецца да 1.500 корэспондэнтаў. Друкуюцца наступныя працы: 1) М. Вэйнгер. „Аб яўрэйскіх дыялектах"; 2) Яго-ж. „Лінгвістычная географія і яўрэйскі дыялектолёгічны атлас"; 3) М. Вайн-

райх. „Яўрэйскае мовазнаўства XVII ст.“; 4) Яго-ж. „Нямецкі элемэнт у яўрэйскай мове“; 5) Проф. Кагараў. „Аб яўрэйскім этымолёгічным слоўніку“ і інш.

4. Фольклёрная Камісія распрацоўвала багатую колекцыю матар'ялаў З. Храпкоўскага і часткова падрыхтавала іх да друку. Сабраны і падрыхтаваны да друку значны матар'ял па фольклёры, які зьбіраўся корэспондэнтамі Фольклёрнай Кам. на Беларусі і Украіне. Удзельнікам экспэдыцыі ў м. Нароўлю т. Х. Голмштокам сабраны песьні і народныя драмы.

5. Літаратурная Камісія падрыхтавала да друку шэраг прац па гісторыі яўрэйскай літаратуры XVI і XVII ст. ст. і новай эпохі. Друкуюцца наступныя працы: 1) Макс Эрык. „Яўрэйскія шпільманы“; 2) А. Гурштэйн. „Бібліографія крытычнай літаратуры а Мэндэле-Мойхер-Сфорым“; 3) І. Нусінаў. „Варыянты твораў М. М. С.“; 4) І. Добрушын. „Драматургія Шолом-Алейхэма“; 5) І. Гольдбэрг. „Макаронічныя песьні ў яўрэйскай народнай творчасьці“.

Усе пералічаныя працы друкуюцца ў ІІ-ім томе навуковага выданьня Яўсэктара „Цайтшрыфт“ (да 60 друк. аркушаў).

6. Яўрэйская сэкцыя краязнаўства пры ЦБК організавала шэраг яўрэйскіх краязнаўчых сэкцый пры мясцовых таварыствах, правяла шэраг інструкцыйных і мэтодолёгічных дакладаў.

---

## Польскі Аддзел.

1925 году, 30 сакавіка, пры ІБК быў з'організаваны Польаддзел. Найперш былі з'організаваны 2 сэкцыі, 2 сталыя і 1 часовая камісія; а ласьне: Сэкцыя Гістарычная і сэкцыя Мовы і Літаратуры, у складзе каторых былі такія-ж сталыя камісіі і часовая Этнографічная Камісія. У склад гэтых сэкцый і камісій увашлі 23 члены: 12 правадзейных, 8 супрацоўнікаў і 3 корэспондэнты.

У гэтым-жа годзе Польскі Аддзел рэорганізаваўся, абедзьве, вышэйназваныя сэкцыі былі скасаваны, часовая Этнографічная Камісія ператворана ў сталую.

Дзеля кіраваньня працай Аддзелу быў абраны Прэзыдыум з 3-х асоб: кіраўніка Аддзелу т. С. Гэльтмана, намесьніка т. І. Віткоўскага і сакратара т. Хржчановіча.

З гэтага часу праца Аддзелу вялася ў трох камісіях: 1) Мовазнаўча-Літаратурнай, 2) Гістарычнай і 3) Этнографічнай.

Камісія Мовазнаўча-Літаратурная мела ў прэзыдыуме:— т. А. Друскоўскага і навуковага сакратара сьпярша т. О. Яневіча, а пасьля яго (памёр 9 студзеня 1927 г.)—т. Е. Донброўскага. Членамі былі: т.т. Б. Вонсоўскі, М. Стакоўскі, А. Паўловіч і інш.

Заданьне Камісіі Мовазнаўча-Літаратурнай—дасьледваць асобнасьці ў мове польскага жыхарства на Беларусі і яго народную творчасьць.

Мовазнаўча-Літаратурная Камісія апрацовывала польска-беларускі і беларуска-польскі слоўнік (па 60.000 слоў у кожным). Апроч таго апрацоўвала „творчасьць польскую пасьлярэволюцыйную“ і інш. Зроблена таксама многа перакладаў з беларускай мовы на польскую і наадварот.

Гістарычная Камісія мела ў складзе свойго прэзыдыуму т. І. Віткоўскага і навук. сакратара т. Хржчановіча. Членамі Камісіі былі т.т. Будкевіч, С. Гэльтман, І. Красны, С. Бабінскі.

Гістарычная Камісыя вывучала гісторыю польскай народнасьці на Беларусі, гісторыю паўстаньня 1863 г. на Беларусі паводле архіўных матарьялаў б. царскай канцэлярыі а таксама іншых дагэтуль тайных матар'ялаў.

У 1926-27 акадэмічным годзе вышла з друку першае выданьне гэтае Камісіі пад агалоўкам „Rok 1863 na Mińszczyźnie“. Цяпер прыгатаваны ў друк наступныя працы: „R. 1863 na Witebszczyźnie“, „R. 1863 na Mohylowszczyźnie“, „Udział Polaków w Rewolucji Październikowej“ т. I, а таксама ладзяцца другія працы.

Этнографічная Камісія мела ў прэзыдыуме старшынёй т. Гэльтмана, навуковым сакратаром і інструктарам пры ЦБКраязнаўства т. Даўкшу. Членамі Камісіі былі т. т. В. Хржчановіч, І. Клыс, В. Внароўскі.

Этнографічная Камісія працавала над дасьледваньнем быту польскай народнасьці на Беларусі, яе статыстыкі і фольклёру. Прымае чынны ўдзел у організацыі і працах сэкцый і польскіх кружкоў пры краязнаўчых таварыствах. Організуе этнографічна-краязнаўчыя польскія экспэдыцыі.

Цяпер Камісія апрацоўвае матар'ялы экспэдыцыі ў Асіпавіцкі раён, „Pieśń polską weselną na Białorusi“ і інш. пытаньні, якія будуць зьмешчаны ў найбліжэйшым гадавіку.

Пасьля рэорганізацыі Інбелкульту, ад 1 кастрычніка мінуўшага году Польскі Аддзел перайменаваны быў у Польскі Сэктар пры ІБК, захоўваючы менш-больш тую-ж самую організацыю.

---

## ЗЬМЕСТ.

